№ 10 (704) 16 сакавіка 2011

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Дэвальвацыя**

Старонка 4



**У Лукашэнкі адбяруць самае дарагое?**

Старонка 5

**Побач з разведчыкам**

Старонка 2

# Мірны атам у кожны дом

Падпісанне дамовы пра беларускую АЭС (**старонка 3**) адбылося ў злавесны дзень. Падзеі на АЭС у Японіі блізкія да найгоршага сцэнару (**старонка 9**).





### Тэндэнцыі

## Банкі плюнулі на рэкамендацыю Нацбанка і не абмяжоўваюць курс валюты

Курсы валют, выстаўленыя ў аўторак камерцыйнымі банкамі, здзіўляюць маленькай розніцай курса продажу і куплі.

Большасць банкаў прадавала даляр па 3084 рублі пры дазволеным максімуме ў 3084,48 рубля. Але курс пакупкі, напрыклад, у «Абсалютбанку» і «Трастбанку» такі самы — 3084 рублі.

Тое ж і з еўра. Пры дазволеным максімуме курса куплі і продажу 4290,8 рубля пяць банкаў купляюць еўра па 4300 рублёў.

А вось «Тэхнабанк» прадае еўравалюту аж па 4330 рублёў. Гэта на 2,93% вышэй за афіцыйны курс Нацбанка пры дазволеным максімуме ў 2%.

Насельніцтва гатовае скупляць валюту і па такім кошце. Попыт па-ранейшаму перавышае прапанову, што прыводзіць да чэргаў да абменнікаў у цэнтры Мінска.

Начальнік упраўлення інфармацыі Нацбанка Анатоль Драздоў пракаментаваў сітуацыю так: «Наша прапанова насіла рэкамендацыйны характар. Банкі маюць права самастойна ўсталёўваць курсы валют. Перавышэнне на 3% не з'яўляецца парушэннем».

**Яўген Васількоў**

На 15 сакавіка рубель апусціўся да валютнага кошыка на 4,6% у параўнанні з 1 студзеня. **Старонка 4.**

## Па-за зонай дзеяння КДБ

Экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч з'ехаў з краіны.

Алесь Міхалевіч застаецца галоўнай медыйнай персонай апошніх тыдняў. Спачатку Алесь пад падпіску аб нявыездзе выйшаў з СІЗА КДБ, потым – шакаваў усіх прызнаннямі аб катаваннях у ізалятары. Пасля спецслужбы дасталі са схованкі ліст палітыка да Лукашэнкі. А 13 сакавіка Міхалевіч паведаміў, што з'ехаў з краіны.

Троху няяснай была гісторыя з лістом Міхалевіча да Лукашэнкі. КДБісты змясцілі сканы ўрыўкаў з ліста вязня да кіраўніка краіны адразу пасля скандальных прызнанняў аб катаваннях. Што выглядала на нязграбную спробу зраўняць лік.

На невялікім аркушыку няроўнай рукой Міхалевіча было напісана: «Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, я заўсёды ставіўся да вас з павагай, і вашы заслугі перад незалежнасцю краіны неаспрэчныя і вельмі вялікія. У час сваёй перадвыбарчай кампаніі я не сказаў нічога кепскага ні на ваш адрас, ні на адрас вашых родных і блізкіх. Я як былы кандыдат шчыра шкадую, што адбыўся канфлікт і ахвярамі стала многа людзей. Прашу вас узяць пад асабісты кантроль пытанне майго далейшага лёсу».

Пытаннем застаецца, чаму палітык не расказаў пра гэты ліст на прэс-канферэнцыі, прысвечанай катаванням, а дазволіў спецслужбам апублікаваць яго першымі. Такая заява магла б нейтралізаваць наступную публікацыю пісьма. КДБісты таксама заявілі, што ніякіх катаванняў не было. Пры гэтым у КДБ адразу папярэдзілі, што выкладваюць толькі ўрыўкі з «прашэння Міхалевіча аб ласцы».

**Працяг на старонцы 8.**

### У НУМАРЫ



«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Севярынца, Саннікава, Дашкевіча пазбавілі адваката

**Павел Сапелка пазбаўлены адвакацкай ліцэнзіі.**



Сяргей Гудзілін

Такое рашэнне прыняў прэзідыум Мінскай гарадской калегіі адвакатаў пад ціскам Мінюста і, напэўна, КДБ.

Гэта ўжо пяты адвакат, які сёлета пазбаўляецца права на прафесію. Крыху раней ліцэнзіі забралі ў адвакатаў Ірыны Халіп Уладзіміра Тоўсціка і Тамары Гараевай. Іх пазбавілі за тое, што не змаглі аказаць патрэбную дапамогу сваёй кліентцы. Самае цынічнае, што Гараеву адмовіцца ад Халіп вымусілі, як многія мяркуюць, у КДБ, а Тоўсціка не рызыкаваць угаварыла сама Ірына.

Пазней з Мінскай калегіі адвакатаў выдалілі Алега Агеева і ягоную маці Таццяну Агееву. Алег абараняў Алеся Міхалевіча.

Цяпер вось Сапелка. Працы ў Сапелкі было больш, чым у астатніх. Ён бараніў адразу трох палітвязняў: Андрэя Саннікава, Паўла Севярынца і Змітра Дашкевіча. Сапелка перажывае больш не праз выключэнне з калегіі («Калі гэта рашэнне маіх калег, то я не хачу працаваць з імі»), а што не давёў справу да канца.

Афіцыйна Сапелку пазбавілі ліцэнзіі за «незабеспячэнне абароны падазраваных». Гэта пры тым, што Сапелка неаднаразова дамагаўся сустрэч з вязнямі «амерыканкі», але яму ўпарта адмаўлялі.

Павел Сапелка быў адным з найбольш прынцыповых і смелых мінскіх адвакатаў. Ён без сумневаў браўся за палітычныя справы. Абараняў у судзе інтарэсы жонкі Віктара Ганчара Зінаіды, Паўла Красоўскага і Мікалая Аўтуховіча, якіх вінавацілі ў тэрарызме, часопіс Arche, калі яго прызналі экстрэмісцкім, быў адвакатам на «Працэсе чатырнаццаці» і справе «Партнёрства».

«Вы тут кіруецеся законамі, але ў нацысцкай Нямеччыне таксама кіраваліся законамі», – смела казаў Сапелка ў судовых спрэчках на «Працэсе чатырнаццаці». На судах Сапелка не баяўся выказваць і сваё прыватнае меркаванне па справах.

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», адвакаты і праваабаронцы розных краін Еўропы збіраюць сродкі для тэрміновай дапамогі сваім беларускім калегам.

Вядома ўжо, што справу Дашкевіча ўзяла Мар'яна Сімешка, яшчэ адна бясстрашная адвакатка. Андрэя Саннікава будзе бараніць Марына Кавалеўская, а Паўла Севярынца – Вадзім Мушынскі (ён рэпрэзентаваў інтарэсы Аляксандра Атрошчанкава).

Рэпрэсіі прымусілі адвакатаў быць больш асцярожнымі ў словах, але не прымусілі адмовіцца ад сваіх падабаронных.

**Зміцер Панкавец**

# Побач з разведчыкам

**Беларускі мовазнаўца Фёдар Янкоўскі ў вайну ўзначальваў разведку ГРУ ў Мінскім, Заслаўскім і Радашковіцкім раёнах. Многія ягоныя прызнанні і выказванні згадваюцца ў гэтыя дні. Піша Анатоль Сідарэвіч.**

28 лютага я спачатку быў прыемна ўражаны заявай Алеся Міхалевіча, а потым добра пасмяяўся, прачытаўшы каментар Алега Алкаева. У гэтым каментары мяне насмяшыў наступны пасаж: «Упэўнены, што супрацоўнікі, якія працавалі з экс-кандыдатам у прэзідэнты, прадугледзелі магчымасць «раскаяння» навазспечанага агента... Лічу, што менавіта фактар наступнага «раскаяння» і быў галоўнай мэтай «вярбоўкі».

> Янкоўскі сказаў гэбісту: «Калі б вы трапіліся мне ў час вайны, я вас за такую работу паставіў бы да сценкі».

Не разумею, навошта спецслужбе спатрэбілася «наступнае раскаянне». Па-мойму, з Міхалевічам ГБ яўна пракалолася, бо ні спецслужба, ні карпарацыя, якая ўтрымлівае ўладу, ад таго, што экс-кандыдат давёў да ведама шырокай грамадскасці, ніякай выгады не займела.

Мы ведаем не аднаго завербаванага ці кандыдата ў сексоты, які публічна адмовіўся ад супрацоўніцтва з ГБ. Дастаткова назваць імёны паэтаў Алеся Емяльянава і Славаміра Адамовіча.

Спецслужбы праколваюцца і са штатнымі супрацоўнікамі. Дзясяткі савецкіх разведчыкаў і контрразведчыкаў і з КГБ, і з ГРУ перайшлі «на той бок». Генерал Алег Калугін, палкоўнік Алег Гардзіеўскі, Віктар Разун (ён жа вядомы аўтар Віктар Сувораў)... А з імі ж працавалі, да сёмага калена правяралі радавод: ці няма сваякоў за мяжою, ці не служылі ў Дзянікіна і бацькі Махно дзяды-прадзеды, ці не належаў дзед да трацкістаў, а дзядаў брат – да правых ухілістаў... І ўсё роўна былі «осечки», «недосмотры», «упущения». А пра тое, наколькі дыскваліфікавалася ГБ у найноўшы час, кажа леташняя масавая высылка расейскіх «кратоў» са Злучаных Штатаў.

Зрэшты, і ранейшыя праколы, і цяперашняя дурата расейскай і беларускай ГБ у немалой ступені тлумачыцца пачуццём беспакаранасці, усёдазволенасці. Пра гэтую дурату я наслухаўся ўжо ў 1980-я.

Працяг на старонцы 13.

## Сціслa

• **Чорны спіс.** Адмененыя канцэрты Вольскага і Вайцюшкевіча ў Мінску. Вольскі меў выступаць 17 сакавіка ў пабе «Госці». Нагадаем, што ў пачатку сакавіка з'явіўся «чорны» спіс айчынных і замежных дзеячаў культуры. У тым спісе апынулася і «Крамбамбуля». Забарону на сабе ўжо адчулі гурт «Ляпіс Трубяцкой» (адменены канцэрт 13 сакавіка ў Гомелі), спявак Зміцер Вайцюшкевіч (выступ 18 сакавіка ў Брэсце).

• **У Фядуты і Вазняка была вочная стаўка.** Паводле словаў Сяргея Вазняка, Аляксандр Фядута выглядае нядрэнна. «Нават спрабаваў жартаваць. І, як заўсёды, цалаваў ручкі дамам-адвакатам...»

• **Палажанка нагадвае суддзі пра Суд Божы.** У Дзень Канстытуцыі намесніца старшыні Маладога Фронту Наста Палажанка звярнулася з лістом да суддзі па справе Дашкевіча Алены Шылько і гэтак званых «пацярпелых». Суд па справе Дашкевіча – Лобава мае адбыцца 21 сакавіка. Палажанка піша, што не мае ніякіх ілюзіяў адносна рашэння. «Але як верніца хачу Вас папярэдзіць – за ўсё гэта будзе судзіць Гасподзь». «Хлопцы выйдуць рана ці позна. Але Вы? Дзе апынецеся Вы?» – гукае яна.

• **Таксіст-лавелас падмануў дзясяткі жанчын.** 31-гадовы мінчук прыглядаўся да заможных кліентак. Спачатку запрашаў тэлефанаваць, калі спатрэбіцца таксі. Калі знаёмства мела працяг, малады чалавек усяляк стараўся пераканаць даму ва ўзнікненні рамантычных пачуццяў.

Але надыходзіў дзень, і мужчына тэлефанаваў сваёй «каханай», молячы аб дапамозе. Казаў, што збіў пешахода, якому тэрмінова патрабуецца кампенсацыя.

Па гэтай схеме лавелас пазычыў грошы не менш чым у 17 жанчын. Грошай пасля ён не аддаваў.

Ашуканца затрымалі пасля таго, як адна з пацярпелых звярнулася ў міліцыю.

Цяпер яму пагражае да сямі гадоў з канфіскацыяй за махлярства.

• **З выставы «Пагоня» на загад Мінкульта знялі піраміду.** Гэта інсталяцыя Генадзя Драздова і Аляксея Марачкіна «Беларуская піраміда». На ёй кожны мог пакінуць любы запіс. Вось людзі і пісалі пра сённяшнюю сітуацыю ў краіне.

Больш пра выставу «Пагоня» і творы, якія зняла з яе цэнзура, – на старонцы 14.

• **У Гоа загінула 28-гадовая беларуска.** Апошнія пяць месяцаў яна здымала кватэру разам з сябрам. Яе цела знайшлі ў рацэ каля горада Сіалем. Хлопец загіблай дзяўчыны арыштаваны.

**СГ**

## Самае чытанае на nn.by за 9—15 сакавіка

• Міхалевіч з'ехаў з Беларусі

• Японія на мяжы новага Чарнобыля. АЭС у Фукусіме халодзяць марской вадой

• Цунамі ў жывым эфіры. Японія вытрымала апакаліптычны землятрус

• Більжо намаляваў карыкатуры на Лукашэнку

• БМВ пратараніў калону веласіпедыстаў на МКАД

• «Новыя еўрапейскія дысідэнты». Лукашэнкаўскаму палітолагу ў Браціславе проста заткнулі рот

• Філарэт уганараваў міліцыю харугвай за «сохранеціе отечества от злоумышленніков»

• На судзе супраць Брэуса і Гапонава сведчыў спецназавец, які збіў Святлану Завадскую?

• Да расейцаў асаблівае стаўленне. Брэус і Гапонаў атрымалі штрафы

• Міхалевіч з-за мяжы: Не хачу быць героем

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перахазу даклада і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі – 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей – 63125, для прадпрыемстваў – 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Валянціне А. з Талачынскага раёна.
Р.А., Юрыю Б., Анатолю А., Васілю Н. з Віцебска.
Канстанціну С. з Горацкага раёна.
Міхаілу Т., Сяргею К. са Слуцкага раёна.
Дзмітрыю П., Андрэю Б. з Ваўкавыскага раёна.
В.П., Васілю Б. са Шчучынскага раёна.
Уладзіміру М., А.П., Веры Ч. з Брэста.
Вользе П. з Барысаўскага раёна.
Н.Ж., А.К., Г.К., Дз. М., Віталію Б., Наталлі Б. з Гродна.
Аксане Д. з Пінскага раёна.
П.Б., Яўгену М., Людміле С. з Гомеля.

# Мірны атам у кожны дом

**Падпісанне дамовы пра беларускую АЭС адбывалася ў злавесны дзень. Падзеі на АЭС у Фукусіме блізкія да найгоршага сцэнару.**

Доўгачаканая сустрэча Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі ўсё ж адбылася. Хай і не на гарналыжных сочанскіх курортах, дзе беларускі лідар два тыдні выглядаў расійскае кіраўніцтва. Пуцін сам прыехаў у Мінску, каб прыняць удзел у пасяджэннях саюзнай дзяржавы і ЕўрАзЭС. Гэта першы міжнародны візіт у Беларусь такога высокага ўзроўню пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Ніякіх кантактаў з Масквой на найвышэйшым узроўні не было тры месяцы, ад 9 снежня, калі Лукашэнка падпісаў усе пагадненні аб Адзінай эканамічнай прасторы на ўмовах Масквы. Тады гэта расцэньвалася як капітуляцыя.

Тым не менш, Масква не надта песціць Лукашэнку. Ніякіх сігналаў аб пацяпленні ў адносінах не назіралася. Лукашэнка вымушаны быў пайсці на чарговыя саступкі: ён гатовы прадаць расійцам МАЗ, не дабіваецца адмены высачэзнага мыта на заходнія аўтамабілі. З гэтага можна зрабіць вывад, што беларускаму кіраўніцтву патрэбныя грошы. І адзіная іх крыніца бачыцца якраз у Маскве.

Урэшце, Лукашэнка канчаткова пагадзіўся на будаўніцтва АЭС рукамі расейцаў. Нездарма ж менавіта на гэтай тэме акцэнтаваў увагу Пуцін.

«Узровень абароненасці на беларускай АЭС будзе значна вышэйшы, чым у Японіі», — паспрабаваў супакоіць усіх расійскі прэм'ер.

«Тыя праекты, якія мы з вамі абмяркоўваем і збіраемся рэалізоўваць, яны, вядома, праекты самага апошняга пакалення, і ўзровень абароненасці нашмат вышэйшы, нягледзячы нават на тое, што Беларусь не знаходзіцца ў такой сейсмічнай зоне, як Японія», — заявіў Пуцін.

Паводле яго слоў, у Японіі дзейнічаюць амерыканскія рэактары 40-гадовай даўніны.

Узгадненне планаў аб будаўніцтве беларускай АЭС адбылося ў злавесны дзень. На фоне страшных падзей у Японіі. Яшчэ ніколі атамныя энергетыкі не сутыкаліся з адначасовымі праблемамі на такой колькасці рэактараў, як у Фукусіме. Калі спеклае атамнае паліва прапаліць металічныя абалонкі рэактара, вялізную тэрыторыю Японіі і прылеглы акіян чакае яшчэ больш моцнае радыяцыйнае забруджванне.

Будаўніцтва АЭС было асабістай ідэяй Лукашэнкі. Некаторыя эксперты сцвярджаюць, што за праектам стаіць не столькі эканамічная матывацыя, колькі амбіцыя ўзвесці Беларусь у ранг атамных дзяржаваў. Указ аб адабрэнні дамовы з Расіяй быў падпісаны Лукашэнкам напярэдадні, 14 сакавіка.

У маі бакі маюць падпісаць кантрактнае пагадненне, а не пазней за чэрвень — крэдытнае пагадненне паміж міністэрствамі фінансаў дзвюх краін.

Мяркуецца, што ў верасні 2011 года пачнуць капаць катлаван пад АЭС. Астравецкая АЭС мае будавацца каля Міхалішак, за 50 км ад старажытнай Вільні і за 30 км ад Нарачанскіх азёр.

**Зміцер Панкавец, Сяргей Гезгала**

# Дзень Волі — праз тыдзень

**Мінгарвыканкам яшчэ не даў адказу на заяўку аб правядзенні 25 Сакавіка мітынгу і шэсця.**

Яны маюць прайсці з нагоды чарговых угодак абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Падобна, што па старой завядзёнцы адкладаюць на апошні дзень. Заяўнікі ж спрабуюць дабіцца хутчэйшага адказу. «Гэта дапаможа лепш арганізаваць ахову, дамовіцца з праваахоўнымі органамі, якія б маглі гарантаваць бяспеку ўдзельнікаў акцыі», — кажа сустаршыня Хрысціянскай Дэмакратыі Віталь Рымашэўскі. Найпазней улады могуць адказаць у пятніцу.

Тым не менш, некаторыя арганізатары ўжо заклікаюць людзей збірацца а 18 гадзіне на плошчы Якуба Коласа. Так у інтэрнэце з'явіўся ролік ад Маладога Фронту. Юнакі прапанавалі наступны слоган: «Прыйдзі ты, каб сышоў ён».

У задуме, традыцыйная акцыя мае прайсці па маршруце ад плошчы Якуба Коласа да сквера Янкі Купалы. Акцыю падтрымалі амаль усе палітычныя партыі, а таксама штабы кандыдатаў. Мітынг і шэсце пройдуць пад лозунгамі абароны незалежнасці і вызвалення палітвязняў.

Дзе-нідзе і ў рэгіёнах плануецца адзначэнне Дня Волі. Напрыклад, у Віцебску мясцовыя БНФаўцы падалі заяўку ў адміністрацыі аж трох раёнаў. Кажуць, што гатовыя правесці акцыі ў вызначаных месцах.

Пададзеныя заяўкі на адзначэнне Дня Волі ў Полацку і Наваполацку. У Магілёве актывісты апазіцыі плануюць трымаць пікеты цягам трох дзён (ад 25 да 27). Плануюцца таксама пікеты ў абарону палітвязняў у Гомелі і Брэсце.

Апошнія два гады Дні Волі ў Мінску праходзілі мірна. Хацелася б, каб гэтая традыцыя працягнулася і сёлета.

**ЗП**

# У страху шокавай дэвальвацыі

## Насельніцтва ў паніцы скупляе ў абменніках любую валюту.

На Беларусь апусціўся цень дэвальвацыі. Усе бачаць, што яна адбываецца, але ўсе гадаюць наконт ступені абвалу.

Ад няпэўнасці нараджаюцца чуткі.

Першая дата «Х» была прымеркаваная на 9 сакавіка. Маўляў, у банкі ўжо паступіла адпаведная інфармацыя. «9 сакавіка адзін даляр будзе каштаваць 3800—3900 рублёў», — з такой думкай Беларусь перажывала афіцыйны выходны 8 сакавіка. Паддаў жару і сам Нацбанк. 8 сакавіка сімвалічна адключыўся сайт арганізацыі, не вытрымаўшы колькасці наведвальнікаў.

Два гады таму, у студзені 2009 года, менавіта сайт Нацбанка першым абвесціў шакуючыя курсы валют пасля 20%-ай дэвальвацыі. Гэта дазволіла спрытным беларусам зняць грошы са сваіх рахункаў у валютных банкаматах яшчэ да абясцэньвання грошай. Таму раптоўнае адключэнне сайта было ўспрынятае як падрыхтоўка да яшчэ больш таемнай дэвальвацыі.

Абвалу не адбылося, 9 сакавіка курс даляра змяніўся неістотна. Чуткі імгненна перанеслі дэвальвацыю на 15 сакавіка. Тым часам насельніцтва падчыстую выграбала валюту з абменнікаў і здымала рублёвыя дэпазіты.

Няўклюдныя спробы прадстаўнікоў улады спыніць паніку не пераконвалі людзей. Аднойчы апёкшыся, людзі не схільныя верыць абяцанням наконт стабільнасці курса. Па стане на 14 сакавіка ў цэнтры Мінска знайсці ў продажы еўра было складана, а даляры – амаль немагчыма.

### Адзінадушнасць банкаў

Дробным крокам для абмежавання попыту стаў продаж валюты па максімальным курсе. Нагадаем, камерцыйныя банкі маюць права ўсталёўваць курс куплі і продажу валюты плюс-мінус 2% ад афіцыйнага курса Нацбанка. Напрыклад, «Белрасбанк» заўсёды выгадна прадаваў расійскія рублі, а «Сўмбелбанк» – еўра. «Беларусбанк», у сваю чаргу, вельмі часта выстаўляў нявыгадныя для насельніцтва курсы продажу даляраў.

Цяпер беларускія банкі прадаюць даляры толькі па максімальна дапушчальным курсе. Нацбанк ухваліў гэтае рашэнне.

Але нават нягледзячы на невялікі рост курса продажу валюты, абменнікі аказаліся непадрыхтаванымі да наплыву ахвотных. Рэч у тым, што банкі не могуць купіць на біржы столькі валюты, колькі ім трэба. Нядаўна ўведзеныя абмежаванні рана ці позна прывялі б да ажыятажнага попыту, пра што папярэджвала «Наша Ніва».

### «Па просьбах працоўных…»

Тым часам Міжнародны валютны фонд працягвае біць у набат, заклікаючы неадкладна працягнуць дэвальвацыю рубля, хаця б у межах 8-працэнтавага калідора. Фонд прызнаў, што раней такія рэкамендацыі ўлады Беларусі адхілялі, матывуючы гэта вялікімі палітычнымі рызыкамі.

У кожным разе, прастора для манеўра ў Нацбанка невялікая. Дэфіцыт бягучага рахунку Беларусі дасягнуў касмічнага памеру. На 16 сакавіка рубель ужо апусціўся да валютнага кошыка на 4,5% у параўнанні з 1 студзеня.

**Яўген Васількоў**

### Стаўка рэфінансавання скочыць да 12%

#### Да гэтага змусіў скачок інфляцыі.

З 16 сакавіка стаўка рэфінансавання паднялася да 12%. Яна вырасла за раз ажно на 1,5%. Рашэнне прынятае Нацбанкам «у мэтах адэкватнага рэагавання на павышэнне ўзроўню інфляцыі». Нагадаем, за студзень-люты яна склала 4,2%. Летась Нацбанк шэсць разоў зніжаў стаўку рэфінансавання на 0,5%. А апошні раз рэзкі рост стаўкі рэфінансавання (на 2%) адбыўся адначасова з 20%-ай дэвальвацыяй.

Рост стаўкі рэфінансавання павялічыць прыбытак ад рублёвых укладаў. Разам з тым, павялічацца і стаўкі крэдытаў. Урад Сідорскага ўсяляк заахвочваў Нацбанк да змяншэння стаўкі, а цяперашні прэм’ер Мясніковіч вырашыў даверыцца рынкавым умовам.

**ЯВ**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**10 сакавіка на вуліцах Мінска можна было сустрэць кіраўніка найбольшага банка Расіі і аднаго з найбольшых банкаў свету. Герман Грэф прыязджаў у Мінск для сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам. Грэф — старшыня праўлення ААТ «Сбербанк Расіі». У Беларусі пад кантроль «Сбербанка» перайшоў «БПС-банк» — адзін з найбуйнейшых у краіне. «Сбербанк» таксама — адзін з найбуйнейшых крэдытораў беларускай эканомікі. Па выніках перамоваў у Мінску Грэф заявіў, што «Сбербанк Расіі» не будзе выдаваць крэдытаў Беларусі для павелічэння яе золатавалютнага рэзерву, але гатовы паўдзельнічаць у беларускай прыватызацыі. Грэф таксама сказаў, што яго ўразіла, наколькі Мясніковіч «адэкватна ацэньвае няпростую сітуацыю».**

# Віншуем! Вы вінаватыя тры тысячы баксаў

## За 2007–2010 гады замежны доўг вырас з 6 мільярдаў даляраў да 28,5.

Валавы замежны доўг Беларусі за мінулы год павялічыўся на $6,45 мільярда. На 1 студзеня 2011 года ён дасягнуў $28,5 мільярда.

У разліку на душу насельніцтва валавы знешні доўг дасягнуў $3007 супраць $2322 на пачатак 2010 года і $1596 на пачатак 2009-га.

На абслугоўванне замежнага доўгу ў 2010 годзе было накіравана $5,17 мільярда. Гэта значыць, што краіна пераважна бярэ новыя пазыкі, каб расплаціцца са старымі.

Апошнія гады краіна жыла не па сродках, а дэфіцыт кампенсавала замежнымі крэдытамі. Агульны аб’ём замежнай запазычанасці на сёння дасягнуў прыкладна 50% ад валавога ўнутранага прадукту.

За 2007–2010 гады замежны доўг вырас з 6 мільярдаў даляраў да 28,5!

МВФ рэкамендуе для выпраўлення сітуацыі дэвальваваць рубель або прыватызаваць больш прадпрыемстваў. Беларускія ўлады пакуль аддаюць перавагу адміністратыўнаму абмежаванню імпарту. Для апошняга яны ўскладнілі закуп прадпрыемствамі валюты на біржы.

Беларускія ўлады не звярталіся па новыя крэдыты МВФ. Аднак яны ўлічваюць рэкамендацыі Фонду. У прыватнасці, было прынятае тэрміновае рашэнне аб росце стаўкі рэфінансавання на 1,5%.

**Сяргей Гезгала**

**Золатавалютныя рэзервы Беларусі знізіліся за люты на $320 мільёнаў.** На 1 сакавіка рэзервы склалі $4 мільярды супраць $5 мільярдаў на 1 студзеня. Пры захаванні цяперашняга тэмпу падзення рэзерваў іх засталося ўсяго на некалькі месяцаў. Тым больш што ў замежнай валюце засталося толькі $1,28 мільярда.

# У Беларусі скончылася біяпаліва

## А цана беларускага бензіну амаль дагнала цану ўкраінскага.

З 3 сакавіка ў Беларусі выраслі цэны на бензін і дызпаліва. Прадстаўнікі «Белнафтахіма» нават увечары перад падаражаннем катэгарычна адмаўлялі запланаваную змену цаны. У гэты час сайты некаторых АЗС ужо апублікавалі новы прэйскурант.

Павялічаныя цэны выглядалі наступным чынам: бензін А-92 — 3000 рублёў (+4,5%), А-95 — 3400 рублёў (+4,9%), дызельнае паліва – 2850 рублёў (10,5%) за літр.

Бензін нізкай якасці Н-80 за паўмесяца паспеў падаражаць двойчы. Спачатку ён падаражаў разам з іншымі відамі паліва на 6,7%, а пасля з «экалагічнымі мэтамі» цана вырасла яшчэ на 19%, дасягнуўшы 2850 рублёў за літр.

### Агонія Н-80

Гэты від аўтамабільнага паліва найбольш шкодны для навакольнага асяроддзя і забаронены да прымянення ва ўсіх краінах-суседзях Беларусі, апроч Расіі і Украіны. «Абмяркоўваецца пытанне аб спыненні выпуску Нармаль-80», — паведамляюць у «Белнафтахіме».

### Забытае біяпаліва

Тым часам заглухла яшчэ адна ініцыятыва беларускіх нафтавікоў. Біядызельнае паліва, набыццё якога ўсяляк заахвочвалася летась, канчаткова знікла з заправак. Прычынай стаў неўраджай рапсу. У сувязі з гэтым урад нават увёў на паўгода забарону на вываз рапсавага алею, алейнага семя рапсу і лёну.

### Падрыхтоўка «Стоп-бензін-2»

Аргкамітэт руху «За Аўто» 11 сакавіка даў пачатак чарговай акцыі супраць павышэння цэнаў на паліва – «Стоп-бензін — 2». Паводле словаў старшыні аргкамітэта Арцёма Шаркова, акцыя будзе бестэрміновай. Пакуль што яе сутнасць зводзіцца да збору подпісаў пад зваротам да дзяржаўных арганізацый. Калі дыялогу не атрымаецца, акцыя набудзе новы фармат. Паводле арганізатараў, пэўную эфектыўнасць першай акцыі «Стоп-бензін», якая адбылася ў пачатку чэрвеня 2010 года, даказвае той факт, што дзевяць месяцаў цэны на паліва не падвышаліся.

| | А-95 | Дызель |
|---|---|---|
| Расія | 2760 | 2630 |
| Беларусь | 3400 | 2850 |
| Украіна | 3510 | 3260 |
| Польшча | 5130 | 5070 |
| Латвія | 5260 | 5260 |
| Літва | 5620 | 5250 |

* Цэны прыведзеныя на 14 сакавіка 2011 года ў пераліку на беларускія рублі.

**ЯВ**

## СЦІСЛА

**АЭС прафінансуем усёй краінай?** «Беларусбанк» выпусціць аблігацыі на $1,6 мільярда. Згодна з указам Лукашэнкі, банк пракрэдытуе пабудову інфраструктуры беларускай АЭС. Фактычна, дзяржава пазычыць сродкі ў грамадзян і арганізацый, прадаючы ім аблігацыі.

**Аблвыканкамы выпусцяць свае еўрабонды.** Аляксандр Лукашэнка сваім указам дазволіў аблвыканкамам і Мінгарвыканкаму ў 2011–2012 гадах выпусціць замежныя аблігацыі для фінансавання інвестыцыйных праектаў. Мінск ужо атрымаў крэдытны рэйтынг «В+». Прагноз па рэйтынгу — «Негатыўны».

**Samsung пяройдзе ў цень?** Кампанія спыніла пастаўкі прадукцыі ў Беларусь. Гэта звязана з абмежаваннямі імпарту, уведзенымі пастановай Саўміна і Нацбанка «Аб разліках па імпарце некаторых тавараў». Увоз тавару дазволены. Але за яго нельга расплаціцца з пастаўшчыкамі. Тавару на аптовых складах і ў рознічных сетках засталося прыблізна на адзін месяц.

**ЯВ, СГ**

# Спецназаўца, які «абараняўся» ад Завадскай, збілі і на Плошчы





Юрый Давыдовіч цяпер камандуе ўзводам палка спецыяльнага назначэння ГУУС Мінгарвыканкама.

У Рэдакцыю «НН» звярнулася Святлана Завадская, жонка зніклага ў 2000 г. журналіста Змітра Завадскага. Яна звярнула ўвагу на знаёмае прозвішча, што прагучала ў судзе над грамадзянамі Расіі, затрыманымі на Плошчы ў мітынгу.

Яна прыгадала гісторыю 6-гадовай даўніны, калі на акцыі памяці яе мужа 7 ліпеня 2005 г. яе ўдарыў кулаком у твар адзін з байцоў мінскага АМАПа. Пасля таго інцыдэнту яна дабівалася, каб на яе крыўдзіцеля завялі крымінальную справу, аднак марна. У дзеяннях міліцыянта не знайшлі нічога незаконнага. Яго дзеянні трактавалі як самаабарону, бо, нібыта, першай яго ўдарыла па твары Завадская.

У атрыманых з пракуратуры дакументах было пазначана прозвішча ды ініцыялы амапаўца — Давыдовіч Ю.М.

Цяпер камандзір узвода палка міліцыі спецыяльнага прызначэння Давыдовіч сведчыў у судзе над дэманстрантамі як пацярпелы.

Святлану Завадскую асабліва ўразіла, што Давыдовічу на Плошчы быццам бы разбілі губы. У справе 2005 года Давыдовіч таксама скардзіўся на разбітыя вусны.

Што цікава, міліцыянт Давыдовіч на судзе скарыстаўся правам не агучваць публічна свой хатні адрас. Ён заявіў суду, што пражывае на вуліцы Орды. Журналісты прабілі гэтыя каардынаты: такога чалавека па дадзеным адрасе не аказалася. Выдуманыя адрасы падалі і іншыя міліцыянты-сведкі.

**Сямён Печанко**

# Як двое рускіх пятнаццаць беларускіх спецназаўцаў пабілі

Грамадзян Беларусі адправілі ў турму, Расіі — пакаралі штрафамі.

Працэс Аляксандра Малчанава, Змітра Новіка і Аляксандра Атрошчанкава прайшоў па той жа схеме, што і суд над Парфянковым («НН» №9). Вырак быў прама прапарцыйны прызнанню віны. Прэс-сакратару Саннікава Атрошчанкаву, які не прызнаў сябе вінаватым, — чатыры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму, Новіку — 3,5 (прызнаў віну часткова) і Малчанаву — 3 (прызнаў цалкам).

Прысуды выклікалі жорсткую крытыку праваабарончых арганізацый.

А вось на працэсах расіянаў Арцёма Брэуса і Івана Гапонава і беларуса Змітра Мядзведзя 10 сакавіка адбылося сапраўднае шоу. На іх з'явіліся новыя сведкі — «пацярпелыя на Плошчы спецназаўцы». Іх было аж пятнаццаць.

Уся гэтая група па чарзе давала паказанні. Яны расказвалі пра ўдары рукамі і нагамі, якія ўдзельнікі дэманстрацыі наносілі ім па шчытах і шлемах, пра вырваныя ў іх дубінкі і атаку на іх з дапамогай агнетушыцеля. Праўда, на пытанне суддзяў, ці пазнаюць яны Брэуса, Гапонава альбо Мядзведзя, спецназаўцы ў адзін голас казалі: не.

Напярэдадні візіту расійскага прэм'ера Пуціна ў Мінск грамадзяне Расіі Брэус і Гапонаў атрымалі штрафы памерам у 300 базавых велічынь. А вось дырэктар будаўнічай фірмы, беларус Мядзведзь — тры гады «хатняй хіміі» без накіравання ў папраўчыя ўстановы.

Наколькі трывалай стане тэндэнцыя змякчэння пакаранняў абвінавачаным у «масавых беспарадках», пабачым на наступным тыдні. На 21 сакавіка прызначаны суд над лідарам Маладога Фронту Змітром Дашкевічам і яго паплечнікам. Эдуардам Лобавым. У пракуратуру перададзеная і справа Мікіты Ліхавіда. Гэта яго маму супрацоўнік спецслужб прасіў, каб яна ўгаварыла сына зманіць, што ён выйшаў на Плошчу за грошы. Гэты чалавек абяцаў узамен вызваленне з-пад варты.

**Алесь Пілецкі**

**Сяргей Мусіенка: Наступныя прысуды будуць мякчэйшыя**

Пралукашэнкаўскі сацыёлаг, кіраўнік аналітычнага цэнтра ЕСООМ Сяргей Мусіенка пракаментаваў рашэнні судоў па справах Мядзведзя, Брэуса і Гапонава.

**«Наша Ніва»: Чаму прысуды мякчэйшыя ў параўнанні з мінулымі?**

**Сяргей Мусіенка:** І справа з «Аўтарадыё», і прысуды — гэта пазітыўная тэндэнцыя. Мяркую, наступныя рашэнні судоў будуць больш узважаныя.

**«НН»: Сённяшнія прысуды не звязаныя з пагаршэннем справаў у эканоміцы?**

**СМ:** Гэта мала звязаныя рэчы. А з чаго вы ўзялі, што стан эканомікі пагаршаецца? Можа, калі б у эканоміцы справы ішлі кепска, то і прысуды былі б больш жорсткія. Мне проста здаецца, што здаровы сэнс павінен перамагчы з абодвух бакоў.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**




**Вызваленага ў зале суда Змітра Мядзведзя абдымалі сваякі.**




# Партрэты палітвязняў у цэнтры Мінска

У дзень прыезду Пуціна смелыя юнакі абклеілі імі тумбы на праспекце Незалежнасці.

На плакатах, акрамя звестак пра арыштаваных кандыдатаў у прэзідэнты і іх памочнікаў, змешчаная кароткая інфармацыя пра падзеі пасля 19 снежня. Таксама тэкст плакатаў нагадвае пра Дзень салідарнасці — 16-ы дзень кожнага месяца.

Напярэдадні візіту Пуціна сваякі арыштаваных 19 снежня кандыдатаў у прэзідэнты звярнуліся да Пуціна з лістом. Яны папрасілі расійскага прэм'ера распачаць рэальныя крокі, каб паспрыяць вызваленню беларускіх вязняў сумлення.

**СП**

# У Лукашэнкі адбяруць самае дарагое?

Набірае сілу кампанія за перанос Чэмпіянату свету па хакеі з Беларусі.

Услед за кіраўніком Еўрапарламента Ежы Бузкам з такой прапановай выступіў Сенат ЗША. Лісты на адрас Сусветнай федэрацыі хакея з такой просьбай пачалі дасылаць і шараговыя грамадзяне Беларусі.

У звароце, ініцыяваным гомельскай абласной арганізацыяй Руху «За Свабоду», гаворыцца, што ў Беларусі свядома і паслядоўна парушаюцца правы чалавека. Ёсць і палітычныя зняволеныя. «У такіх умовах чэмпіянат свету не можа несці мір і згоду», — адзначаецца ў звароце. Падпісанты просяць МХФ адмяніць правядзенне ў Беларусі ЧС-2014. Далучыцца да ініцыятывы можа кожны. Для гэтага трэба проста скапіяваць з сайта Рух.by англійскі тэкст звароту.

Імавернасць пераносу чэмпіянату з Беларусі ў іншую краіну невялікая, аднак калі гэта насамрэч адбудзецца, то па іміджы Лукашэнкі будзе нанесены моцны ўдар.

**АП**

# «Аўтарадыё» мае вярнуцца ў эфір

Вышэйшы гаспадарчы суд адмяніў абодва папярэджанні, вынесеныя Міністэрствам інфармацыі.

Экстрэмізм Мінінфа пабачыла ў фразе Андрэя Саннікава «Лёс краіны вырашаецца не на кухні, а на плошчы». Ён сказаў гэта ў сваім рэкламным роліку, што гучаў на станцыі.

Тая самая фраза была надрукавана ва ўсіх афіцыйных СМІ і гучала на дзяржаўным радыё і тэлебачанні. Міністэрства настойвала на тым, што слова «плошча» мае значэнне «мітынг».

Адмена папярэджання стала для супрацоўнікаў «Аўтарадыё» нечаканасцю — яны ўжо не спадзяваліся на справядлівасць. Гэтаксама знялі і другое абвінавачанне — у парушэнні творчай канцэпцыі.

Зараз супрацоўнікі «Аўтарадыё» будуць звяртацца да Міністэрства сувязі, каб «Аўтарадыё» зноў вярнулася ў эфір.

— Закрылі нас за адзін дзень, — кажа дырэктар станцыі Юрый Базан. — Пабачым, наколькі хутка вернемся ў эфір.

За два месяцы прастою суд прызначыў Міністэрству інфармацыі выплаціць смеху вартую кампенсацыю — 700 тысяч беларускіх рублёў.

**Юрась Ускоў**

# На «Еўрабачанне» з любоўю, цымбаламі і без «Беларашы»

У Дзюсельдорфе Настасся Віннікава праспявае «Я люблю Беларусь».

Песня, з якой беларуска Настасся Віннікава прадставіць нашу краіну на «Еўрабачанні» ў нямецкім Дзюсельдорфе, у чарговы раз змяніла назву. Канчатковы (?) варыянт мае нейтральную і паліткарэктную назву «Я люблю Беларусь» (I love Belarus). У сеціве з'явіўся афіцыйны кліп песні. Мяркуючы па ім, беларусы прывязуць з сабой у Нямеччыну цымбалы і падтанцоўку ў нацыянальных строях. З тэксту песні зніклі Белараша і СССР.

Песня Віннікавай ад пачатку выклікала скандал, бо называлася Born in Bielorussia і была прасякнута настальгіяй па савецкім часе.

Пад ціскам крытыкі аўтары некалькі разоў змянялі назву песні — акрамя Born in Bielorussia ды Born in Belorussia на Ю-тубе з'яўляўся працоўны кліп пад назвай I Am Belarusian.

**СП**

# На шашлыкі ў аўтазаку



## На адпачынковым фота міліцыянта ў сацыяльных сетках інтэрнаўты на заднім плане заўважылі аўтазак.

Спецназавец Саня Воцінаў выклаў на сваю старонку на сайце знаёмых Вконтакте разухабістыя фоткі з карпаратыўнай паездкі на шашлыкі. Як жа здзівіліся інтэрнаўты, калі на заднім плане там пабачылі цуд беларускай прамысловасці... аўтазак. Гэта вялікагрузныя спецмашыны, прызначаныя для перавозкі арыштаваных.

Менавіта ў такіх машынах вазілі па Мінску 700 арыштаваных на дэманстрацыі пратэсту супраць парушэнняў дэмакратыі і правоў чалавека, што адбылася ў дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня. Тады на галоўны праспект сталіцы выйшлі дзясяткі тысяч людзей. Лукашэнкаўцы назвалі тыя падзеі «масавымі беспарадкамі».

Саня Воцінаў прыцягнуў да сябе ўвагу фатаграфіямі з Плошчы. Ён з гонарам пазначаў, дзе стаіць ён — са шчытом і дубінкай. І пахваляўся, як яны далі дыхты «апазіцы». Гэта выклікала абурэнне людзей.

Ён вымушаны быў зачыніць сваю старонку. Магчыма, яму нават далі па шапцы начальнікі: спачатку там былі выстаўленыя ў тым ліку і фатаграфіі, зробленыя ўнутры часці, а гэта забаронена статутамі.

Цяпер Саня Воцінаў закрыў доступ да сваёй старонкі. Але фотаздымкі блукаюць па інтэрнэце.

**Мікола Бугай**

**Vkontakte.ru, Facebook.com і Odnoklassniki.ru**

гэта так званыя сацыяльныя сеткі. Гэта спецыяльныя інтэрнэт-сайты, на якіх людзі могуць перапісвацца са знаёмымі і незнаёмымі людзьмі. Гэта папулярны спосаб баўлення часу сярод маладых.

**Апазіцыя ў сацыяльных сетках**

Дзяржаўныя СМІ ў Беларусі пад кантролем, а вось у сацыяльных сетках няма ідэолагаў і падначаленых, там усе роўныя. Таму сайты робяцца арэнай жорсткіх палітычных спрэчак. Былыя аднакласнікі рэзка раскрытыкавалі там суддзю Вольгу Комар. Нагадаем, яна асудзіла на чатыры гады турмы першага фігуранта справы аб «масавых беспарадках». Спачатку яна спрабавала абараняцца. Калі ж крытыка пайшла хваляй, яна зачыніла сваю старонку для наведнікаў.



АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

# Збітая дзяўчына шукае справядлівасці

## Пракуратура цягне з адкрыццём справы па скарзе Маі Абромчык.

«Я ўжо трэцяга адваката змяніла, але і да яго няма даверу. Яны калі толькі чуюць аб нашай справе, адразу змяняюцца ў твары. Іх можна зразумець — на адвакатаў ідзе вялікі ціск», — кажа маці Маі Абромчык.

21-гадовай студэнтцы гістфака БДУ Маі спецназаўцы зламалі нагу. Гэта здарылася вечарам 19 снежня падчас затрымання на плошчы Незалежнасці. Пасля гэтага яшчэ тры гадзіны вазілі па начным Мінску ў аўтазаку, адмаўляючы ў просьбе пра дактароў. Хуткую дапамогу выклікалі толькі ў турме на Акрэсціна.

Магчыма, гэты факт так і застаўся б невядомым, як многія іншыя факты з Плошчы, каб не сябры дзяўчыны. Яны звязаліся з журналістамі, і гісторыя студэнткі абляцела ўвесь свет. Мая стала сімвалам.

Нага гоіцца, хоць Мая дагэтуль не можа перамяшчацца без мыліцаў. Дзяўчыне прыйшлося перавесціся на завочнае аддзяленне факультэта. А вось крымінальную справу па факце збіцця так і не распачалі.

«Скарга ў пракуратуру Маскоўскага раёна Мінска была пададзеная яшчэ 21 снежня. Адтуль яе перанакіравалі ў міліцыю і далучылі да справы аб масавых беспарадках. Пасля яна вярнулася ў пракуратуру. », — расказвае сама Мая Абромчык.

У прынцыпе, для адкрыцця справы дастаткова было б дакументальна пацверджанага дыягназу, які Маі зрабілі ў першыя ж дні пасля атрымання траўмы.

Дарэчы, знайсці вінаватых у збіцці было б няцяжка. Маю Абромчык затрымалі не на самой плошчы Незалежнасці, а бліжэй да СІЗА на вуліцы Валадарскага. Збівалі разам з яе блізкім сябрам, Андрэем Задзяркоўскім. Менавіта за яго заступілася Мая, пасля чаго атрымала серыю ўдараў. Пасля іх яна ўжо не змагла самастойна стаяць. Са слоў Андрэя і Маі, збівалі іх два спецназаўцы. Яны ж адводзілі Андрэя ў аўтазак, а ён нёс Маю на руках. З ізалятара дзяўчына трапіла ў бальніцу. А вось яе сябру Андрэю прыйшлося пасядзець на сутках, і пратакол на яго быў складзены.

У ім і знайшліся прозвішчы двух служачых 8-га ўзвода ПМСН ГУУС Мінгарвыканкама І.В.Мазайлы і А.М.Якаўлева. Гэтыя людзі ў афіцыйным пратаколе затрымання пазначылі, што вечарам 19 снежня ў раёне плошчы Незалежнасці затрымалі Андрэя Задзяркоўскага.

Вядома, можна сказаць, што Якаўлеў і Мазайла проста распісаліся ў падрыхтаваных бланках. Паводле інфармацыі праваабарончага Цэнтра прававой трансфармацыі, Якаўлеў вечарам 19 снежня распісаўся ў затрыманні 16 чалавек, а Мазайла — 12. Тым не менш, следства магло б паспрабаваць высветліць, ці датычныя згаданыя спецназаўцы да жорсткага збіцця дзяўчыны.

Аднак Маі адмовілі нават у тым, каб яе сябар Андрэй быў сведкам на працэсе. «Пракурор кажа, што, паводле пратаколаў затрымання, нас завялі ў аўтазак у 22.30. І я не магу паклікаць Андрэя сведкам, бо сцвярджаю, што мяне збівалі і затрымлівалі каля 12-й ночы», — кажа Мая.

Час 22.30 фігуруе і ў такіх «палітычных» справах. Менавіта такі час пазначаны ў якасці моманту затрымання грамадзян Расіі А.Брэуса і І.Гапонава. Цікава, што сведкам на іх працэсе выступае той самы А.Якаўлеў, прозвішча якога пазначана ў пратаколе затрымання сябра Абромчык. Падчас разгляду справы расіян у судзе іх адвакаты паставілі час затрымання пад сумнеў. На відэа, што дэманстравалася падчас працэсу, выразна пазначана, што А.Брэус знаходзіўся на Плошчы і пасля 22.30.

Цяпер сям'я Маі Абромчык чакае 19 сакавіка. Да гэтага дня пракуратура павінна вызначыцца з адкрыццём крымінальнай справы па факце жорсткага збіцця дзяўчыны. У выпадку адмовы Мая будзе мець яшчэ месяц на абскарджванне. Дзяўчына спадзяецца, што сродкі, сабраныя людзьмі для аплаты адвакатаў, не прападуць.

**Алесь Пілецкі**

# Архівіст у турме

## Гісторыя Дзмітрыя Дразда: фота, «Землеўласнікі», Плошча.

Дзмітрый Дрозд ніколі не займаўся палітыкай, але перад апошнімі выбарамі пачаў збіраць подпісы за Саннікава. 19 снежня яго затрымалі на Плошчы і асудзілі на дзесяць сутак. А пасля, 1 лютага, арыштавалі і абвінавацілі па абедзвюх частках артыкула 293 Крымінальнага кодэкса: масавыя беспарадкі. Цяпер ён сядзіць у СІЗА на Валадарскага. Карэспандэнт «НН» сустрэўся са сваякамі палітзняволенага.

Тыповы шматпавярховік на вуліцы Петруся Глебкі, класічны спальны раён — менавіта тут, у двухпакаёўцы, разам з маці, сястрой і яе мужам жыве Дзіма. Ягоны пакой выглядае сціпла: ложак, тэлевізар, старэнькая секцыя з кнігамі па гісторыі. На шкле секцыі налеплена Пагоня.

У куце ляжаць пакункі з кнігамі: у снежні выйшла першая гістарычная праца Дзмітрыя «Землеўласнікі Мінскай губерніі». Прэзентацыя адбылася незадоўга да падзей на Плошчы.

— Ён заўжды быў такі ціхі і палітыкай ніколі не займаўся. Толькі надаўна з Масквы вярнуўся, ён там сем гадоў адпрацаваў.

Дзмітрыю 37, і ягоны асноўны занятак — гісторыя. Скончыўшы ў свой час тэхнікум, ён пайшоў на гістфак БДУ. Паралельна працаваў у фірме «Кодак».



— У сына павінна была вось-вось выйсці другая кніга... А на Плошчы... Ён проста ў шалік не заматаўся — не схаваў твару. Пасля казаў мне: «Мама, там было горача, не мог я ў шаліку стаяць». Вось яго на відэа і вылічылі.

Уранку 1 лютага яго паднялі з ложка званком у дзверы. Як быццам бы праехаць разам з прадстаўнікамі КДБ у якасці сведкі. Але назад ён ужо не вярнуўся.

— У яго было каханне ў Маскве, сем гадоў сябравалі, а пасля яны з дзяўчынай разышліся. Ён прыехаў назад у Мінск такі няшчасны, разгублены. Відаць, выбарчая кампанія для яго была як аддушына. Я ў яго пыталася пра Саннікава, а ён сказаў, што не ў Саннікаву справа: проста хочa, каб нам было добра.

У канвертах на паліцах — калекцыя старых фотаздымкаў. Ён захапляўся іх зборам.

Цяпер піша лісты з СІЗА. З ім у камеры сядзіць 30 чалавек, яны спяць па чарзе. Сядзяць усе першы раз, рэцыдывістаў няма. Прафесар матэматыкі, эканамісты. Большасць курыць, хоць Дзіма нават пах тытуню не трывае. Ён не паліць і не п'е...

Сваякі збіраюць характарыстыкі з месцаў працы, ад участковага. Суседзі пра Дзмітрыя нічога не ведаюць: 36 гадоў сям'я жыве ў гэтай кватэры, але Дзмітры быў настолькі ціхі, што большасць суседзяў і не здагадвалася пра ягонае існаванне.

Сястра тлумачыць: «Дзімка зранку сыходзіў на працу, пасля сядзеў у архівах, вяртаўся позна вечарам».

Ад Змітра прыйшло 11 лістоў, усе пранумараваныя.

Ён піша, што пачне пісаць вершы, каб развеяцца.

Характарыстыку на яго ў Маскве дапамагла ўзяць якраз тая дзяўчына, з якой Дзмітрый расстаўся перад ад'ездам. Кажуць, яна таксама перажывае.

**Юрась Ускоў**

# Лукашэнкаўцы дзейнічаюць па законе

Піша **Андрэй Дынько.**

Калі людзі ў масках раздзяваюць кандыдатаў у прэзідэнты дагала і ставяць іх на расцяжку пяць разоў за дзень, яны фармальна нічога не парушаюць. Няма ніякай нормы закону, якая б абмяжоўвала лічбу вобшукаў у турэмнай камеры.

Гітлерцы таксама дзейнічалі па законе — па сваім законе.

Аблівалі на марозе халоднай вадой генерала Карбышава — за парушэнне лагернага рэжыму.

Арыштоўвалі камуністаў і сацыялістаў — як «дэструктыўных элементаў».

І старшыня КДБ БССР Цанава згодна з законам паслаў элегантную Ларысу Геніюш на 25 гадоў у канцлагеры — на верную смерць. Праўда, доля распарадзілася іначай: Геніюш праз 8 гадоў з лагера вярнулася ў родны край, а пасадзілі ўжо Цанаву — таксама ў поўнай адпаведнасці з законам. Кат сам аказаўся не такі трывушчы і сканаў за кратамі.

Законы краіны часам пярэчаць нормам міжнароднага права і агульнапрызнаным уяўленням аб правах чалавека.

Дзеянні па законе, які пярэчыць Канстытуцыі ці неад'емным правам чалавека, могуць цягнуць у далейшым юрыдычную адказнасць.

Як нагадаў нядаўна лідар сацыял-дэмакратаў Анатоль Сідарэвіч, «Энгельс адзначаў: першай умовай захавання законнасці з боку народа з'яўляецца тое, што і органы ўлады трымаюцца ў рамках закону. У адваротным выпадку, пісаў ён, паводле англійскіх прававых паняццяў, паўстанне становіцца першым абавязкам грамадзян».

Наша жыццё фармуе не толькі літара законаў, але і дух звычаяў.

Лічба, якая найлепш характарызуе рэпрэсіўнасць лукашэнкаўскага рэжыму, — гэта нават не колькасць палітвязняў, а доля апраўдальных прысудаў, якія выносяцца ў краіне.

Паводле звестак Вярхоўнага Суда Беларусі, у 2008 годзе быў апраўданы 191 чалавек на 68 530 асуджаных (0,28%). У 2009 годзе гэты паказчык склаў 187 апраўданых на 62 064 асуджаных (0,3%). «Наша Ніва» атрымала з Вярхоўнага Суда статыстыку за 2010 год: было апраўдана 217 чалавек на 61054 асуджаных (0,36%).

Вось што пра гэта піша чалавек, ніяк не звязаны з палітычнай апазіцыяй, — Ігар Лапека, галоўны спецыяліст камісіі палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу па нацыянальнай бяспецы, кандыдат юрыдычных навук: «Пачынаючы з 60-х гадоў, нягледзячы на ўсе сацыяльныя, эканамічныя, дзяржаўныя змены, змены ў судаводстве і працэсуальным заканадаўстве, доля апраўдальных прысудаў ніколі не перавышала 2% ад усёй масы вынесеных прысудаў. Гэта анамальна нізкі ўзровень, не супастаўны са станам рэчаў ні ў адной з развітых дзяржаў. Яго немагчыма растлумачыць, як часам спрабуюць, наглядной дзейнасцю пракуратуры, якая не дапускае да перадачы ў суд спраў, якія не ўтрымліваюць дастатковых для асуджэння доказаў вінаватасці. Падобныя, і нават больш жорсткія, фільтры маюцца ва ўсіх прававых сістэмах, аднак адсотак апраўдальных прысудаў там несувымерна вышэйшы (вар'юецца ад 10 да 20% і нават больш)».

Параўнайма гэтыя лічбы: 0,3% у Беларусі і 10–20% у дэмакратычных краінах.

У ліку гэтых дзесяці працэнтаў і 4 гады турмы Атрошчанкаву і Парфянкову за іх палітычны пратэст. У іх ледзьве не трапіў і школьнік Логінаў з Віцебска, на якога хацелі павесіць забойства («НН», №9). Толькі дзякуючы звышнастойлівасці бацькоў, яго справа нядаўна стала паказальным выняткам, які толькі пацвярджае правіла.

Гэта і ёсць кошт дыктатуры і яе псеўдазаконнасці.

Гэта і ёсць рэальная лічба ахвяраў злачыннага рэжыму — 6000–12000 чалавек у год. Людзей, якім ламаюць лёсы, якія выходзяць — калі выходзяць — маральнымі і фізічнымі калекамі, сухотнікамі, рэцыдывістамі.




# Дзень мужчынскай гуманнасці

**У свеце няма ніводнай краіны, дзе б мужчыны выконвалі хатнія абавязкі нароўні з жанчынамі.**

Да наступнага 8 Сакавіка застаЕцца ўсяго толькі 357 дзён. Мужчыны з радасцю вярнуліся да звычайнага палегчанага варыянту падзелу хатніх абавязкаў. Жанчыны ўпрэгліся ў абрыдлы воз прасавання — прання — догляду за дзецьмі. Усё быццам бы ў норме. Можна адпачываць. А як выглядае гэтая самая «норма» ў свеце?

11 гадоў эксперты Арганізацыі эканамічнай супрацы і развіцця (OECD) праводзілі доўгатэрміновыя даследаванні размеркавання платнай і бясплатнай працы ў найбольш развітых краінах свету, а таксама ў Індыі і Кітаі. Асаблівую ўвагу яны звярталі менавіта на падзел працы ўнутры сям'і. І вось што ў іх выйшла: у свеце няма ніводнай краіны, дзе б мужчыны выконвалі хатнія абавязкі нароўні з жанчынамі.

На адным полюсе – станоўчым – Данія. Там мужчыны бяруць на сябе прыкладна 45% хатніх працаў, пакідаючы жанчынам каля 55. На другім полюсе – Паўднёвая Карэя, дзе мужчына ў сям'і выконвае ажно 17% працы! Быць паўднёвакарэйскаю жанчынаю – сапраўды, нялёгкая доля.

Неяк так сталася, што Беларусь – насуперак таму, што паказваюць па БТ – не адносіцца да найбольш развітых краінаў свету. Таму і даследаванне ў нас не праводзілася. А гэта значыць, што ў нашых шаноўных мужчын ёсць шанец давесці ўсяму свету, што яна ёсць – тая адзіная краіна, дзе хатнія абавязкі дзеляцца паміж жанчынамі і мужчынамі справядліва. Добры пачатак закладзены 8 Сакавіка – засталося распаўсюдзіць яго на яшчэ толькі 364 дні – і мы будзем наперадзе ўсёй планеты хоць у чымсьці – апроч узроўню хлусні пра гендэрную роўнасць на дзяржаўным тэлебачанні. Што, шаноўныя мужчыны, – страшна? А кахаць абяцалі ў дзень шлюбу? Ну дык хто абяцаў, таму і посуд мыць.

**Дар'я Гаўрылава, Міхась Янчук (беларуская сям'я)**

**Час, які мужчыны і жанчыны вытрачваюць на хатнюю працу, хвілін за дзень**




IN MEMORIAM

## Святлана Навумава

Палітолаг Святлана Навумава доўгі час змагалася са складанай хваробай нырак. Як стала вядома, у яе адкрылася ўнутранае кровацячэнне, якое не ўдалося суняць нават у рэанімацыі.

Яна трымалася незалежных поглядаў, брала ўдзел у развіцці незалежнага грамадства Беларусі. Апошні час яна працавала ў мазгавым цэнтры кампаніі «Гавары праўду». Яе не раз выклікалі на допыты, апошні ператрус быў у яе ў хаце 4 студзеня. Яна была адным з кіраўнікоў паліталагічнага кірунку ў ЕГУ.

У часе ператрусаў у «Гавары праўду» ў маі мінулага года ў яе, як і ў іншых, сканфіскавалі ўсе наяўныя ў хаце грошы. У яе выпадку то былі грошы для лекаў і гемадыялізу, на якіх яна сядзела. А яшчэ яна збірала сродкі на перасадку ныркі – для яе гэта быў адзіны шанец. У адным з інтэрв'ю яна сумна пажартавала, што можа і не дажыве да вяртання тых грошай. І нібы ў кепскі час сказала, бо і выйшла так, што не дажыла.



Фядуту стала кепска на допыце пасля таго, як следчы паведаміў яму аб смерці Навумавай. Пра гэта паінфармаваў жонку Аляксандра Фядуты яго адвакат.

Было ёй 55 гадоў.
Вечная памяць.

**Сяргей Гезгала**

### Спачуванні праз nn.by

Шчырыя спачуванні родным і блізкім. Вечная памяць!

**Ігар Лялькоў**

Вечная памяць, дарагая Святлана Андрэеўна, ад студэнтаў ЕГУ, якіх Вы вучылі! Хай беларуская зямля Вам будзе пухам! Гэта вялікая страта для нашай навукі.

**Вадзім**

Шчырыя спачуванні сям'і Святланы Навумавай. Вельмі ўдзячныя за веды, якія атрымалі падчас лекцыяў у ЕГУ. Вечная памяць.

**Мікола Бянько і Юлія Сівец**

Вечная памяць! Самыя шчырыя спачуванні блізкім!

**Артур Фінькевіч**

Сыну, сястры і ўсім нам, яе былым і цяперашнім калегам, цяжка паверыць у тое, пра што яна ведала і папярэджвала, — пра свой хуткі сыход. Трымайцеся. Вучыцеся ў яе, як трэба трымацца…

**Таццяна**

Я проста не магу ў гэта паверыць. Здаецца, вось-вось зялёным загарыцца яе скайп «svetlana naumova». Божа мой. Яна была вельмі... у многіх рэчах. Светлая памяць.

**Зміцер Кармазін**

Вечная памяць светламу Чалавеку. Яна была і маім настаўнікам, і навуковым кіраўніком маёй магістрскай працы.

**Сяржук Бахун**

Вечная памяць выдатнаму Чалавеку і Навукоўцу!

**Аляксей Буранок**

Шчырыя спачуванні. Вечная памяць.

**Арына Лісецкая**

Ад нас адышла мужная жанчына. Валадарства Вам нябеснае, Святлана Андрэеўна!

**Вадзім Кабанчук**

Сышоў выдатны Чалавек. З вялікай літары.

**Міхаіл Васільеў**

Вялізная страта... Вечная памяць...

**Кірыл Атаманчык**

RIP

**Аляксей Кузьмін, Масква**

Спачуванні родным і блізкім.

**Ягор Жучкоў**

Абяцаў на гэтым тыдні Вас адведаць — так і не паспеў. Дзякуй, што былі нашым арыенцірам... Андрэю, трымайся — мае спачуванні.

**Андрэй Ралёнак**

Мае шчырыя спачуванні родным і блізкім. Гэта ўсё належыць да нашай беларускай памяці. І да нашай агульнай трагедыі.

**Лявон Баршчэўскі**

Цудоўны чалавек. Выдатны навуковец.

**Сямён Букчын**

Вечная памяць і павага Святлане Андрэеўне, інтэлігентнай, змястоўнай і мужнай жанчыне, якая шмат зрабіла для сучаснай Беларусі.

**Улад Вялічка**

Дзякуй вялікі за спачуванні, за падтрымку!

**Сын Андрэй**

ЦЫТАТЫ

Ці можаце вы назваць адзін высакародны ўчынак Лукашэнкі за гэтыя 17 гадоў?

**Сяргей Дубавец, радыё «Свабода»**

УДАКЛАДНЕННЕ

Цікавы раздзел газеты «Гісторыя Беларусі» ў «НН» №8 страціў праз недакладны надпіс пад выяваю. У подпісе «Помнік Торвальду Вандроўніку ў Рэйк'явіку» аж некалькі памылак. Па-першае, гэта не помнік Торвальду, але хрысціцелю Нарвегіі Олафу Тругвасану, па-другое — не ў Рэйк'явіку (Ісландыя), але ў Трандхейме (Нарвегія), які заснаваў згаданы конунг Олаф. Дарэчы, помнік Торвальду варта паставіць у Полацку.

Мае найлепшыя зычэнні.

**Міхась Баўтовіч, Полацк**

**Рэд.** Гэта памылка Рэдакцыі, а не аўтара. Перапрашаем.

# Па-за зонай дзеяння КДБ

Працяг са старонкі 1.

Разам з тым, кандыдата папярэдзілі, што ягоныя «паклёпніцкія выступы» таксама будуць скарыстаныя ў справе.

Літаральна на наступны дзень пасля апублікавання гэтага ліста Міхалевіча выклікалі на допыт. Там палітыку прадэманстравалі кадры, зробленыя схаванай камерай, як Міхалевіч п’е гарбату з супрацоўнікамі КДБ, гаворачы пра замежных дыпламатаў. «У некаторых момантах я нават усміхаўся», — расказаў пасля допыту Алесь. Аператыўнік паведаміў, што пра Міхалевіча будзе поўнаметражны фільм.

Магчыма, якраз тая сустрэча стала вырашальнай у рашэнні Алеся з’ехаць з краіны.

Пра такі крок Міхалевіч паведаміў пры дапамозе інтэрнэт-блогу. У Жывым журнале былы кандыдат у прэзідэнты змясціў наступны запіс: «Мяне выклікаюць для правядзення следчых дзеянняў у КДБ. Я маю абгрунтаваныя падставы меркаваць, што з будынка КДБ ужо не выйду. Таму мяне ў КДБ не будзе. Цяпер я знаходжуся ў надзейным месцы, не ў зоне дасяжнасці беларускага КДБ. Збіраюся працягваць працу над спыненнем катаванняў і вызваленнем усіх, хто незаконна ўтрымліваецца па палітматывах».

Дзе знаходзіцца Міхалевіч, пакуль невядома. Сам ён яшчэ не выйшаў на сувязь з журналістамі. Выказваюцца самыя розныя версія. Адна, што Алесь мог выехаць у Расію, дзе межы не ахоўваюцца. Другая — Міхалевіча вывезлі ў Польшчу ў дыпламатычнай машыне. Заходнія дыпламаты так дзейнічалі яшчэ за савецкім часам, карыстаючыся недатыкальнасцю, і часам вывозілі ў багажніках аўтамабіляў дысідэнтаў альбо шпіёнаў.

У польскім пасольстве назвалі хлуснёй меркаванне, што Міхалевіч мог перасекчы мяжу якраз на машыне іхняга прадстаўніцтва.

Жонка Міхалевіча Мілана кажа, што для яе гэтае рашэнне мужа было нечаканым, і яна пра яго не ведала. Маўляў, Алесь выйшаў з хаты на сустрэчу, пасля чаго не вярнуўся. Ніякіх рэчаў ён з сабой не браў. Не было ў яго нават пашпарта — ён застаўся ў КДБ. Хаця ў такое верыцца слаба, бо ў выпадку раптоўнага знікнення, безумоўна, пачалася б паніка. З гэтага меркавання можна адкінуць версію, што Міхалевіч зноў у турме. І Мілана, і дочкі Алеся пакуль застаюцца ў Беларусі.

Сайт Руху «За Свабоду» паведаміў, што дарога Міхалевіча «ў надзейнае месца» заняла амаль суткі.

За мяжой Міхалевіч можа стаць адным з ключавых сведкаў на магчымым судзе аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі, што ініцыююць у Вялікабрытаніі.

Меркаванні палітыкаў адносна ўчынка Міхалевіча падзялілася. «Я разумею, што яму былі сур’ёзныя пагрозы. У яго маленькія дзеці, цалкам магчыма, што ён пакінуў краіну, каб абараніць сям’ю, сябе ад пераследу. Час пакажа, што на самай справе адбылося, але пагроза для яго была — большая, чым іншым — з прычыны заяваў пра катаванні ў КДБ», — лічыць Аляксандр Мілінкевіч.

«Наўрад ці гэты чалавек мае нейкую адказнасць, у першую чаргу, перад сям’ёй, перад сябрамі, перад грамадствам. Усё астатняе вынікае з гэтага», — мяркуе былы палітвязень Аляксандр Казулін.

На форумах і блогах адны зычаць Міхалевічу поспеху, лічаць, што ягоны ўчынак адзіны правільны. Іншыя ўспамінаюць подзвіг Нэльсана Мандэлы. І спрабуюць параўнаць яго з сітуацыяй Міхалевіча.

Алесь зрабіў іншы выбар. І наўрад ці ён даўся лёгка. «Я не прэтэндаваў на тое, каб быць героем. Я не збіраўся піярыцца на сядзенні ў турме, дый увогуле сядзець не збіраўся. Не хачу быць героем», — напісаў з-за мяжы Міхалевіч.

**Зміцер Панкавец**



**Яшчэ нядаўна жонка Міхалевіча Мілана была бесклапотнай. Цяпер яна з дзвюма дочкамі апынулася між небам і зямлёй. На фота – Мілана з дзецьмі на адкрыцці выставы суполкі «Пагоня» 11 сакавіка.**



**Алесь Міхалевіч**

адным з першых абвясціў аб сваім намеры балатавацца ў прэзідэнты на выбарах-2010. Тады гэта было ўспрынята хутчэй як заяўка на будучыню, чым як сапраўднае змаганне за перамогу. Міхалевіч спецыфічна пазіцыянаваў сябе ў часе выбарчай кампаніі — як трэцюю сілу паміж уладамі і апазіцыяй. На Плошчу сваіх прыхільнікаў ён заклікаў у апошні момант, дый тое выключна праз інтэрнэт.

Тым не менш, Міхалевіч таксама апынуўся за кратамі пасля 19 снежня. Яму прапаноўвалі зачытаць прамову, што агучыў пазней Раманчук, але кандыдат адмовіўся. Два месяцы Міхалевіч знаходзіўся ў розных ізалятарах. Пасля вызвалення пад падпіску аб нявыездзе Міхалевіч апавёў шакуючыя факты пра СІЗА КДБ.

У турме Міхалевіч падпісаў дамову аб супрацоўніцтве з КДБ, але публічна ад яе адрокся..

## Губарэвіч: Цяпер у Алеся развязаныя рукі

Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» быў адным з нямногіх, з кім Алесь Міхалевіч звязваўся пасля выезду з краіны.

**«Наша Ніва»: Юрась, як ты ацэньваеш крок Алеся?**

**Юрась Губарэвіч:** Я лічу, што ў той сітуацыі, якая склалася, — гэта адзіны магчымы варыянт. Міхалевіч нанёс моцны ўдар па іміджы КДБ, калі той імідж яшчэ застаўся. Вядома, што проста так гэта б ніхто не пакінуў. Алеся ўжо выклікалі на следчыя дзеянні на 14 сакавіка, што за яны — невядома. Пасля іх кандыдат зноў бы мог апынуцца за кратамі.

**«НН»: Вядома, якім чынам Алесь пакідаў краіну?**

**ЮГ:** Я гэтага не ведаю. Магчыма, што ён рабіў тое самастойна. Магчыма, яму нехта ў гэтым дапамог. У нядзелю ён звязаўся са мной праз інтэрнэт, каб паведаміць, што знаходзіцца за межамі краіны. Пакуль сваё месцазнаходжанне ён не разгалошвае з мэтаў бяспекі. Хаця не выключаю, што хутка сам Алесь пра гэта паведаміць.

**«НН»: Што можа Міхалевіч рабіць за мяжой?**

**ЮГ:** Найперш ён зможа больш шырока распаўсюджваць інфармацыю адносна катаванняў, што адбываліся з ім у КДБ. Цяпер у Алеся развязаныя рукі. Гэта праца праз праграмы ААН, Чырвонага крыжа. Відаць, што Міхалевіч зможа стаць адным са сведкаў на судовым працэсе, які пачынае супраць Лукашэнкі брытанская юрыдычная фірма.

**«НН»: Можа, Міхалевіч узначаліць які з офісаў апазіцыі за мяжой?**

**ЮГ:** У нас цяпер кожны ўцякач мае свой офіс... Насамрэч пра гэта мы нават не размаўлялі. Наколькі я зразумеў, Алесь збіраецца сканцэнтравацца якраз на тых рэчах, што ён агучваў на вядомай прэс-канферэнцыі.

**«НН»: Міхалевіч як палітык мае будучыню?**

**ЮГ:** На сёння ў тумане палітычная будучыня нават тых людзей, што застаюцца ў Беларусі. Натуральна, што ў выпадку змены ўлады Міхалевіч будзе мець шанцы.

**«НН»: Ці не перакрэсліў ён сваім ад’ездам усё тое, што ён зрабіў ранейшымі прызнаннямі?**

**ЮГ:** Не думаю. Магчыма, нехта і хацеў бы бачыць новую ахвяру спецслужбаў. Аднак мне здаецца, што рашэнне Міхалевіча цалкам узважанае.

**Гутарыў ЗП**

# Лукашэнку будуць судзіць?

### Павал Лёгкі: The Independent купілася на танны трук.

Брытанская юрыдычная фірма H2O Law рыхтуецца ініцыяваць судовы працэс у дачыненні да Аляксандра Лукашэнкі. Фірма дзейнічае ад руху «Неадкладна вызваліце Беларусь» (Free Belarus Now) — групы энтузіястаў, заснаванай сем’ямі апазіцыйных палітыкаў і журналістаў, арыштаваных падчас разгону дэманстрацыі 19 снежня ў Мінску.

«У нас ёсць усе неабходныя складнікі для таго, каб выставіць як прыватнае абвінавачанне, гэтак і грамадзянскі пазоў Аляксандру Лукашэнку. Мы гатовы ўступіць у гэтую справу, і сем’і, якія мы прадстаўляем, перапоўнены рашучасцю», — заявіў у інтэрв’ю газеце партнёр-заснавальнік H2O Law Джэйсан Макк’ю.

Як зазначае выданне, юрысты спадзяюцца, што прыватнае абвінавачанне «можа ўрэшце пацягнуць за сабой ордар на арышт у дачыненні да яго самога (Лукашэнкі) або яго паплечнікаў». «Беларускі прэзідэнт і многія з тых, хто яго падтрымлівае, ужо трапілі пад забарону Еўрапейскага саюза на паездкі, але ордар на арышт распаўсюдзіцца і на тыя краіны па-за Еўрасаюзам, з якімі Брытанія мае пагадненні аб экстрадыцыі», — піша The Independent.

Паводле звестак выдання, H2O Law з самага пачатку была запрошана для аказання націску на ААН і Міжнародны крымінальны суд у Гаазе, каб тыя нешта зрабілі ў сувязі з парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі, але «абвінавачанні ў катаваннях прымусілі яе дзейнічаць прасцей». «У нас ужо была дастатковая колькасць сведчанняў аб катаваннях у цэнтрах затрымання КДБ, але сапраўдным паваротным момантам і фактарам, які мяняе правілы гульні, стала апошняе сведчанне Алеся Міхалевіча», — сказаў Макк’ю.

«Калі H2O Law будзе дзейнічаць, як плануе, то гэта будзе першы выпадак, калі юрысты, што дзейнічаюць у інтарэсах абароны правоў чалавека, пераследуюць кіраўніка суверэннай дзяржавы. Згодна з міжнародным заканадаўствам, катаванні — адзін з тых нешматлікіх відаў злачынстваў, якія можа патрабаваць зняцця імунітэту суверэна», — піша The Independent.

«Калі абвінавачанні ўключаюць катаванні, патэнцыйна гэта дазваляе суду выкарыстоўваць агульную юрысдыкцыю, і ён таксама можаануляваць суверэнны імунітэт, на які можа прэтэндаваць Лукашэнка», — цытуе газета адваката H2O Law Мэт’ю Джуры.

H2O Law у свой час паспяхова выкарыстала амерыканскія суды для пераследу Муамара Кадафі за перадачу выбухоўкі тэрырыстам з «Сапраўднай Ірландскай рэспубліканскай арміі».

Брытанскія юрысты проста спрабуюць звярнуць на сябе ўвагу, карыстаючыся палітычнай вастрынёй сітуацыі, заявіў кіраўнік прэсавай службы прэзідэнта Беларусі Павал Лёгкі з нагоды артыкула ў газеце The Independent.

**СМ**

## З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

Эпіграма на Паўла Лёгкага, прэс-сакратара Аляксандра Лукашэнкі

**Лёгкая пасада**

Дзе нагідзіць «гаспадзін» —
Павел — лёгкі на ўспамін!
Вось пасада дык пасада!
Думаць ні аб чым не нада:

толькі — што ні ляпне бос —
растлумач наперакос.

**Кнехт**

# Японія на парозе новага Чарнобыля

Пры канцы мінулага тыдня свет устрапянуўся ва ўсіх сэнсах гэтага слова – ля ўзбярэжжа Японіі адбыўся самы моцны землятрус за ўсю гісторыю гэтай краіны. Сейсмолагі зафіксавалі 9 балаў па шкале Рыхтэра.

Нягледзячы на страшную сілу штуршкоў, краіна выстаяла – разбурэнні былі адносна невялікімі. Аднак бяда не прыходзіць адна – услед за землятрусам на ўсходняе ўзбярэжжа краіны абрынулася магутнае цунамі. Вышыня хвалі дасягала дзесяці метраў.

Цунамі амаль цалкам разбурыла горад-пабрацім Мінска – Сендай. Свет абляцелі шакуючыя кадры, знятыя з верталётаў, якія абляталі раён бедства ў момант надыходу цунамі. На кадрах відаць, як велізарная маса вады знішчае ўсё на сваім шляху – валачэ караблі, машыны, палаючыя будынкі, а людзі шукаюць паратунку на мастах...

Аднак нават цунамі не было самай страшнай пагрозай, якая навісла над Японіяй. Пасля землятрусу не прайшло і сутак, як на адной з АЭС – Фукусіма-1, размешчанай на ўсходнім узбярэжжы, прагрымеў магутны выбух. Над Японіяй навісла пагроза новага Чарнобыля.

Бяда аказалася ў тым, што станцыя была збудавана хоць і надзейна – землятрус яна вытрымала, але ў нізкім месцы каля акіяна. У выніку цунамі знішчыла лініі электраперадач вакол яе і нават дызельныя генератары, дзякуючы якім у рэактары пампавалі ваду для ахаладжэння. Рэактары адключыліся ў момант землятрусу, у поўнай адпаведнасці з тэхналогіяй. Аднак далей яны сталі награвацца: нават адключаны рэактар трэба халадзіць.

Выбухі вадароду працягваліся і наступныя дні. У аўторак да іх дадаўся пажар зборніка радыеактыўных адкідаў.

Спецыялісты тлумачылі выбухі тым, што для ахалоджвання разагрэтага рэактара на станцыі вымушана пачалі ўжываць марскую ваду (штатную сістэму ахаладжэння знішчыла цунамі), што ўступае ў рэакцыю з металамі, з якіх выраблены кантэйнер-абалонка, узнікла небяспечная канцэнтрацыя вадароду. Японцы падкрэсліваюць, што з самімі рэактарамі ўсё нармальна – яны спыненыя і не разбураныя.

У Фукусіме, у адрозненне ад Чарнобыля, па стане на аўторак не адбылося разгерметызацыі рэактара. Аднак спяканне ядзернага паліва можа прывесці, тым не менш, да агромністага выкіду радыеактыўных матэрыялаў.

Улады правялі масавую эвакуацыю прылеглых да станцый раёнаў.

Нагадаем, што пасля Чарнобыльскай аварыі савецкія ўлады доўгі час хавалі інфармацыю пра выкід радыяцыі, а эвакуацыя 30-кіламетровай зоны вакол рэактара адбылася з вялікай зацяжкай. Яны не хацелі прызнаць, што ў Савецкім Саюзе магчымая тэхналагічная катастрофа.

Улады Польшчы, напрыклад, раздалі тады насельніцтву ёдавыя прэпараты, хоць там узровень забруджвання быў ніжэйшы. Прэпараты са звычайным ёдам абараняюць арганізм ад засваення радыеактыўнага ёду.

У СССР гэта не было зроблена. У выніку ў Беларусі з часам адбыўся ўсплёск захворванняў на рак шчытападобнай залозы.

Менавіта яна назапашвае радыеактыўны ёд. Яго ўсмоктванне адбылося ў першыя тыдні пасля аварыі. Пасля ўзровень забруджвання ім хутка зніжаецца. Перыяд паўраспаду ёду-131 складае 8 сутак.

АЭС у Фукусіме працуе ад 1970 года і ўваходзіць у лік 25 найбуйнейшых у свеце. Яе першы рэактар мусіў сёлета закрыцца пасля 40 гадоў эксплуатацыі.

Пасля падзей у Японіі свет ізноў напоўніцца скептыцызмам адносна атамнай энергетыкі. Драма ў тым, што ніякай вартай альтэрнатывы АЭС і вуглевадародам навукоўцы пакуль не вынайшлі.

**Алесь Пілецкі, Сяргей Гезгала**

**Піць ёд жыхарам Беларусі пакуль няма падставаў**

Ані расійскія, ані, тым больш, беларускія службы па стане на аўторак не зафіксавалі росту радыяцыі ў выніку выбуху на Фукусіме. Японія занадта далёка ад Беларусі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Трымайся, Японія!

У Сендайскім скверы прайшла акцыя салідарнасці з пацярпелымі ад землятрусу ў Японіі.

Жыхары Мінска — горада-пабраціма японскага Сендая — прыйшлі ўвечары ў панядзелак у сквер ля Тэатра музкамедыі. Прыйшлі, каб выказаць сваю падтрымку пацярпелым у Японіі. Усе неслі да памятнай шыльды кветкі, знічы і жаўрукоў-арыгамі.

Акцыя не была арганізаванай ніякім рухам ці супольнасцю. Мінчукі проста прыходзілі ў Сендайскі сквер цягам усяго вечара.

**Сяргей Гудзілін**

## Юрась Адамовіч: Трыумф стваральнікаў Фукусімы

Мала японцам было магутнага землятрусу, як па ўсходнім узбярэжжы прайшлося цунамі. Не прайшло сутак з моманту гэтых падзей, як увесь свет пачаў сачыць за сітуацыяй вакол атамнай станцыі ў Фукусіме. Адразу пачаліся размовы пра другі Чарнобыль, пра моцныя выкіды радыяцыі. Гэта паставіла шэраг пытанняў і перад Беларуссю. Ці патрэбная Беларусі свая АЭС? Што важней: дыверсіфікацыя крыніц энергіі ці бяспека насельніцтва?

На пытанні «Нашай Нівы» адказвае выпускнік кафедры радыяцыйнай хіміі БДУ, аспірант Нацыянальнай акадэміі навук Юрась Адамовіч.

**«Наша Ніва»: Чым адрозніваецца сённяшняя сітуацыя ў Японіі ад Чарнобыля? Чаму Чарнобыль выбухнуў, а Фукусіма – не?**

**Юрась Адамовіч:** На ЧАЭС і Фукусіме былі ўсталяваныя рэактары прынцыпова розных тыпаў. Працей кажучы, Фукусіма і не магла выбухнуць. На ЧАЭС у якасці замаруджвальніка нейтронаў выкарыстоўваўся графіт, а як цепланосьбіт, што мусіць адводзіць цяпло, – вада. На вода-вадзяным рэактары Фукусімы вада — гэта і замаруджвальнік, і цепланосьбіт. Гэта значыць, што на станцыях тыпу ЧАЭС пры выкіпанні вады ў выпадку павышанага цеплавыдзялення рэактар пачынае яшчэ больш разганяцца, што можа прывесці да самых дрэнных наступстваў. Адпаведна, існуе неабходнасць прымусовага ахалоджвання рэактара. На рэактарах кшталту Фукусімы пры выкіпанні вады знікае не толькі цепланосьбіт, але і замаруджвальнік, што прыводзіць да затухання рэакцыі. То бок адбываецца пэўная самарэгуляцыя працэсу. На ЧАЭС сукупнасць пазарэгламентных авантурысцкіх дзеянняў кіраўніцтва прывяла да рэзкага некантраляванага разгону рэактара з выбухам у ЦВЭЛах (гэтак званых «цеплавыдзяляльных элементах» – цырконіевых трубках з таблеткамі дыяксіду ўрану). Як наступства – поўнае разбурэнне актыўнай зоны рэактара, вялізная колькасць радыеактыўных выкідаў на вялікай вышыні і палаючыя графітавыя стрыжні. На Фукусіме такі працэс немагчымы. Там сітуацыю можна параўнаць хіба што з аварыяй на амерыканскай АЭС Трымайл-Айленд (Three Mile Island) у 1979 годзе. Толькі там галоўнымі прычынамі былі паломкі і чалавечы фактар, тут – стыхія.

**«НН»: А калі землятрус адбыўся б не ў моры, а пад самой станцыяй, яна б вытрымала?**

**ЮА:** На гэтае пытанне немагчыма адказаць. Парадаксальнасць сітуацыі ў тым, што ўвесь антыядзерны шал, што разгарэўся, адбываецца на фоне трыумфу стваральнікаў Фукусімы. Паглядзіце самі: саракагадовы, маральна састарэлы рэактар, якому заставаўся літаральна тыдзень да закрыцця (яго спыненне было прызначанае на 21 сакавіка), перанёс такі сейсмічны ўдар і вытрымаў! Тыя разбурэнні, якія мы цяпер назіраем, – наступствы цунамі, а не землятрусу. Што тады казаць пра больш сучасныя і ўстойлівыя рэактары? Праблема сейсмічнай бяспекі пакрысе сыходзіць у гісторыю. Што, відавочна, не спадабаецца прадстаўнікам розных антыядзерных рухаў.

**«НН»: Які ваш прагноз на бліжэйшы час?**

**ЮА:** Сітуацыя стабільна цяжкая, але не крытычная. На мой погляд, горшае, чаго варта чакаць — расплаўленне актыўнай зоны рэактару, з вялікім выкідам радыёактыўных рэчываў. У любым выпадку, гэта не будзе выбух, кшталту чарнобыльскага, з поўным разбурэньнем актыўнай зоны і выкідам большай часткі радыяактыўнага паліва ў атмасферу.



**«НН»: Але, наколькі можна разумець, выцечка радыяцыі ўсё-такі адбылася. Наколькі гэта небяспечна?**

**ЮА:** У выніку пашкоджання сістэмы ахалоджвання адбываецца разагрэў рэактара і рост ціску праз інтэнсіўнае газаўтварэнне. Каб пазбегнуць разбурэння рэактара, пару скідвалі ў г.зв. гермаабалонку. Калі ціск у ёй таксама празмерна вырас, ажыццяўлялі кантраляваны скід пары ў атмасферу. Гэта прывядзе да невялікага забруджвання адносна нязначных калястанцыйных тэрыторыяў, але гэта не занадта вялікая праблема. Больш істотным падаецца тое, што, па розных сведчаннях, у выкідах быў выяўлены цэзій. А гэта можа быць прыкметай пашкоджання ЦВЭЛаў на АЭС, што створыць дадатковую праблему для ліквідатараў.

**«НН»: Ёсць розныя будаўнікі АЭС. «Расатам», «Тошыба-Вестынгхаус», «Арэва». У чым розніца іх праектаў і ў чым іх рызыка?**

**ЮА:** У коштах, якасці выканання, сучаснасці тэхналогій. Беларуская замова пісалася адмыслова пад «Расатам», і гульня ў выбар будаўніка – не болей за тэатральную пастаноўку. Хаця замову, канечне, нашы ўлады заўжды могуць перапісаць. Пад іншага выканаўцу, і ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры. Што тычыцца «Росатама» як будаўніка, то мяне больш турбуе не ўзровень сучаснасці расійскіх тэхналогій (ён дастатковы, каб ажыццявіць больш-менш прымальны праект), а ўзровень расійскай культуры будаўніцтва. Высакаякасных і адказных выканаўцаў усё ж варта шукаць не за ўсходняй мяжой.

**«НН»: Увогуле, будаваць АЭС апраўдана ці не?**

**ЮА:** Гэта непазбежнасць. Мы бясконца чуем прыгожыя словы пра ўзнаўляльныя крыніцы энергіі, але іх моц непараўнальная з сучаснымі патрэбамі, якія толькі працягваюць расці. Проста хтосьці можа дазволіць сабе адтэрміноўку праз уласныя запасы энерганосьбітаў, а хтосьці — не.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Неймаверная Амерыка

## І. Аклахома, як яна ёсць



Штаты ў ЗША даволі незалежныя ад цэнтра. На фота: будынак парламента штата Аклахома.

**Рэпартаж з самага кансерватыўнага штата ЗША адкрывае цыкл рэпартажаў Змітра Панкаўца з-за Атлантыкі.**

### Штат ОК

Аклахома — адзін з самых кансерватыўных штатаў у Амерыцы. Тут мала што мяняецца на працягу дзесяцігоддзяў. Тутэйшыя жуюць кукурузу, ходзяць у баптысцкія цэрквы, а на выбарах галасуюць за рэспубліканцаў.

Цікава, што Аклахома была адзіным штатам, які на мінулых прэзідэнцкіх выбарах не даў ніводнага голасу з калегіі выбарцаў за Барака Абаму. Дэбі, што суправаджае нас у паездцы па Аклахоме, кажа: «Мне сорамна за гэта». Зрэшты, такіх, як Дэбі, тут зусім мала.

Падчас кіравання Джорджа Буша-малодшага была прынятая федэральная праграма супраць венерычных захворванняў моладзі. Амерыканцы смяяліся, што ў падобных праграмах, распрацаваных ААН, ёсць некалькі рэкамендацый, як пазбегнуць хваробаў і непажаданай цяжарнасці: устрыманне, пастаянны сэксуальны партнёр і выкарыстанне прэзерватываў. Дык вось, для амерыканцаў быў толькі адзін пункт — устрыманне. Іншае ў такіх кансерватыўных штатах, як Аклахома, проста выключаецца.

Натуральна, што многія ліберальныя штаты адразу ж адкінулі такую праграму, а вось Аклахома без пытанняў пагадзілася.

Большасць аклахомцаў абсалютна перакананыя, што свету 6000 гадоў. У школах нават на факультатыўным узроўні не выкладаецца тэорыя Дарвіна. Для мясцовых гэта абсалютная ерась.

Зрэшты, калі не чапаць Дарвіна, то тут жывуць абсалютна мілыя людзі, якія з радасцю прыходзяць на дапамогу. «Окей, няма праблем», — кажуць яны. Скарочаная назва штата таксама ім пасуе — ОК. Такі надпіс амаль на ўсіх будынках, на аўтамабілях, на паштоўках.

### Горад без тратуараў

Першае ўражанне ад Талсы, другога па велічыні горада Аклахомы, — адсутнасць тратуараў. У цэнтры яны, натуральна, ёсць, а вось на ўскраінах з гэтым цэлая праблема. Навошта ходнікі, калі ўсе на машынах?

Каля кожнага дома стаяць па тры-чатыры здаравенныя пікапы. Тут, на сярэднім захадзе, машыны зусім не такія, як на ўзбярэжжах акіянаў — у Нью-Ёрку ці Сіэтле. У асноўным, гэта мясцовыя аўтамабільныя маркі. Яны выкарыстоўваюцца не толькі ў мэтах перасоўвання, але і ў гаспадарчых: перавезці мяхі з бульбай ці якую авечку. Маленькай машынай тут не абысціся. Ззаду амаль у кожным аўтамабілі ёсць стойка для зброі. Калі бачыш такое, адразу ўспамінаеш Чака Норыса ці, хутчэй, ягонага героя Крутога Уокера, ураджэнца гэтых мясцін.

А яшчэ ўвесь час трэба пераадольваць вялізныя адлегласці. Для прыкладу. Насельніцтва Талсы дзесьці такое самае, як у нашым Магілёве. А вось плошча горада большая амаль у пяць разоў. Бо людзі жывуць у сваіх дамах, а не ў шматпавярховіках.




Аклахома — штат у цэнтры ЗША. Плошчай амаль роўны Беларусі, ён мае ў тры разы меншае насельніцтва. Штат уваходзіць у так званы «Біблійны пояс» Амерыкі. Большасць яго насельніцтва складаюць хрысціяне веры евангельскай. Рэлігійнасць тут настолькі высокая, што тэорыю Дарвіна забаронена выкладаць у школах. Тут аддаюць перавагу тэорыі пра стварэнне Богам зямлі і ўсяго існага за некалькі дзён.

Гэта яшчэ што, у адміністрацыйным цэнтры штата Аклахоме-сіці насельніцтва крыху больш за паўмільёна. Пры гэтым горад адзін з найбольшых па плошчы ў ЗША. Ёсць тут нешта хутаранскае.

Разам з тым, бедным штатам Аклахома ніколі не была. І вырашальную ролю ў гэтым адыграў нафтавы бум, які пачаўся ў першых гадах XX стагоддзя. Менавіта Талса была цэнтрам нафтаздабычы.

У горад паплылі вялікія грошы. Астаткі былой раскошы і сёння можна бачыць у цэнтры Талсы. Велічныя сядзібы, сучасныя офісы кампаній будаваліся ў самых розных архітэктурных стылях. Залатым векам Талсы былі 1920-я гады.

Адзін з найбольш вядомых помнікаў Талсы — аграмадны Залаты Буравік. Подпіс пад ім гучыць прыкладна так: «Залаты Буравік прысвечаны нафтавікам, якія па Божай волі стварылі лепшае жыццё для чалавецтва».

І па сёння нафтавая прамысловасць займае значнае месца ў жыцці Талсы, хоць з'явіліся і іншыя крыніцы прыбыткаў. Напрыклад, у горадзе збіраюць «Боінгі».

### Чэрокі ахоўваюць зямлю

Яшчэ Аклахома — адзін з найбольшых цэнтраў індзейскай культуры ў ЗША. Менавіта ў гэты штат індзейцы павінны былі накіравацца пасля скандальнага Закона аб перасяленні.

Закон быў прыняты ў 1830 годзе з ініцыятывы прэзідэнта Джэксана. І першапачаткова ён меў някепскую задумку. Індзейцы з усходняга ўзбярэжжа мусілі з'ехаць на захад ад ракі Місісіпі, там ім даваліся землі. Гэткім чынам тлумачылася тое, што карэнныя жыхары Амерыкі лепш захаваюць сваю аўтэнтычную культуру, калі не будуць перасякацца з белымі.

На справе ж перасяленне індзейцаў увайшло ў гісторыю пад назвай «сцяжына слёз». Шмат хто так і не дабраўся да Аклахомы, паміраючы ад голаду і хваробаў у дарозе.

У грамадзянскую вайну большасць індзейцаў сталі на бок канфедэрацкага поўдня. Больш-менш заможныя індзейцы таксама мелі сваіх чорных рабоў і развітвацца з імі не хацелі.

Параза канфедэратаў нанесла па індзейцах моцны ўдар. Яны пазбавіліся сваіх школаў і некаторых іншых ільготаў. Другі ўдар індзейцы Аклахомы адчулі ўжо падчас нафтавай ліхаманкі. Тады заможныя чужакі масава скуплялі іхнія землі.

У Аклахоме, апроч адной, няма класічных рэзервацый, тым не менш індзейцы пражываюць досыць кампактна. Талакуа — месца, дзе засядае рада племені чэрокі. Вігвамы, пер'і, тамагаўкі тут толькі як музейныя экспанаты.

Пра жыццё чэрокі нам расказвае Анэт. Яна нарадзілася ў Сан-Францыска, але, як прызнаецца, адчула поцяг роднай зямлі, таму вярнулася ў Аклахому. Ніколі б не адрозніў Анэт ад звычайных амерыканак. Зрэшты, яна і сама прызнаецца, што індзейскай крыві ў ёй толькі 25%. «На агульнаамерыканскіх сходах нас часта дапікае племя сіу, што мы не падобны да індзейцаў. Натуральна, мы маем кантакт з белымі ўжо 400 гадоў, а гэтыя выскачкі з Дакоты толькі якіх 150!» — з гонарам кажа Анэт.

Зрэшты, белымі людзьмі чэрокі нас не называюць. Для іх мы сінія. Чаму так? Бо раней вены былі не такімі глыбокімі, і ад гэтага скура выглядала сіняй, тлумачаць яны.

Племя чэрокі дзеліцца на сем кланаў: Дзікая бульба (земляробы), Алень (паляўнічыя), Птушка (тыя, хто прыносіў навіны), Фарба (лекары, шаманы), Доўгія валасы (чужакі, прышлыя), Сінія (тыя, хто лячыў дзяцей і жывёл), Воўк (ваяры). Часам выбіралі не аднаго, а некалькі правадыроў племені аднаго ад клана Ваўка, каб думаў пра вайну, іншага — з Доўгіх валасоў, каб думаў пра мір. Перадапошнім правадыром чэрокі была жанчына, але яна летась памерла.

На мове чэрокі мала хто можа вольна размаўляць, хоць захады па адраджэнні робяцца. Нават на айфонах ёсць магчымасць набіраць тэкст чэрокскім сілабарыем.

У Аклахоме ёсць пяць казіно, што належаць чэрокі. Агулам жа індзейцы кантралю-




У Талсе стаіць помнік Буравіку.




Праз Аклахому ідзе помнік гісторыі і культуры — першая трансамерыканская аўтамагістраль.



Цэрквы ў Аклахоме — паўсюль. Царква Хрыста Цара ў Талсе.

юць траціну ўсяго гульнёвага бізнэсу Штатаў. Індзейцы маюць істотныя падатковыя палёгкі на казіно, бо ў свой час у судзе даказалі старажытнасць сваіх азартных гульняў.

Чэрокі вераць у адзінага Бога, але не называюць сваю рэлігію хрысціянствам. «Мы жывём у пекле, каб трапіць у рай», — расказвае Анэт. Паводле паданняў чэрокі, свет пачынаўся не з Адама і Евы, а з чатырох падобных параў, якія сімвалізуюць чатыры чалавечыя расы. Дык вось белым (ці ўсё ж сінім) стваральнік даў мудрасць. А задача чэрокі ахоўваць зямлю.



Аклахома — адно з месцаў кампактнага пражывання індзейцаў.

### Горад веры

Аклахома ландшафтна — гэта лесастэпы, толькі амаль без лясоў. Штат уваходзіць у зону тарнада. Кожны год іх тут праходзіць з дзясятак. А яшчэ менавіта ў гэтым штаце былі зафіксаваны абсалютны амерыканскі рэкорд перападаў тэмпературы цягам сутак — 60 градусаў. Ад мінус 30 да плюс 30.

Вядомы ў Амерыцы комік Віл Роджэрс быў якраз з Аклахомы. Ён казаў: «Калі вам не падабаецца наша надвор'е, то пачакайце пяць хвілін».

Зрэшты, на ўсё воля Божая. Аклахомцы вераць у Бога. Тут надзвычай шмат самых розных цэркваў. Менавіта з Талсы быў родам адзін з найбольш уплывовых хрысціянаў XX стагоддзя Орэл Робертс.

Ён быў піянерам тэлевізійнага евангелізму ў ЗША. На пропаведзях Робертса заўсёды былі чэргі. Людзі чакалі ад яго цуду аздараўлення ад сваіх хваробаў. Евангеліст уважліва выслухоўваў людзей, што хацелі вылечыцца. І абяцаў ім здароўе. Гэта рабіла вялікае ўражанне на гледачоў. Тэлеперадачы Робертса станавіліся ўсё папулярнейшымі.

Робертс пераконваў, што Бог хоча, каб усе хрысціяне былі здаровымі і паспяховымі. Ён сцвярджаў, што Бог увесь час мае з ім кантакт і перадае праз яго свае новыя запаветы. Пік папулярнасці гэтага чалавека прыйшоўся на 1960-я гады.

Вядома, у яго было шмат ілжэпрароцтваў, але гэта не адбаўляла Робертсу папулярнасці. А калі людзі ішлі ў цэрквы, то гэта азначала бязбеднае існаванне. Ён спрабаваў стварыць у Талсе «Горад веры», на які евангелісту было патрэбна 8 мільёнаў даляраў, але праз дзесяцігоддзе эксперымент праваліўся.

Орэл Робертс заклаў у Аклахоме ўніверсітэт свайго імя. Там выкладаюць не толькі тэалогію, але на ўсю Амерыку ён вядомы менавіта сваімі цемрашаламі-прапаведнікамі, якія атрымліваюць адукацыю ў Талсе.



Аклахома знакамітая бізонамі — родзічамі нашых зуброў.

Былая выкладчыца малявання Дона кажа, што ёй сорамна, што ў палове амерыканцаў Талса асацыюецца з Робертсам і яго ўніверсітэтам, але зрабіць з гэтым нічога не могуць. Робертс памёр паўтара года таму ва ўзросце 91 года, сваім дзецям ён пакінуў вялізныя пазыкі.

### Жыць у цэнтры сусвету

Адносіны з чужакамі ў Аклахоме заўсёды былі няпростыя. Менавіта ў Талсе адбыўся адзін з найбольшых расавых пагромаў у ЗША ў XX стагоддзі. Гэта адбылося ў 1921 годзе, калі негрыцянскі хлопец у ліфце офіснага будынка ці то згвалтаваў, ці то проста заляцаўся да белай жанчыны.



Аклахома — крайне правы штат. Прэзідэнта Клінтана тут не паважалі. У 1995 годзе правы радыкал нават падарваў у Аклахоме федэральны будынак. Тады загінулі 168 чалавек.

Пагромы адбываліся ў Грынвудзе, ці «чорным Уол Стрыце», як яго называлі мясцовыя. Белыя скідвалі дынаміт на дамы, а таксама стралялі з верталётаў па чорных, што спрабавалі выратавацца ўцёкамі.

У выніку амаль сотня чорных загінула ў гэтых хваляваннях, а дзесяць тысяч чалавек засталіся без даху. Сёння жыхары Талсы не вельмі любяць узгадваць гэтую старонку з гісторыі.

Цяпер жа ў Аклахоме прыняты адзін з найбольш жорсткіх законаў у ЗША адносна нелегальных мігрантаў. Больш суровы толькі ў Арызоне. Калі ў цэлым у ЗША стаўленне да нелегалаў цярпімае, то з Аклахомы лёгка можна быць дэпартаваным на радзіму.

Натуральна, што найбольш абураецца гэтым іспанскамоўная грамада. Абураюцца яшчэ тым, што адзін з распрацоўшчыкаў закона сам мексіканец, які адрокся ад сваіх каранёў. І цяпер выдаткоўвае вялізныя грошы, каб у штат не ехалі яго суплемяннікі. Зрэшты, іспанскамоўных гэта не спыняе, іх у Аклахоме ўжо каля 15%, і лічба гэтая толькі расце.

У цэнтры Талсы ёсць містычны помнік цэнтру сусвету. Гэта звычайнае кола ў 30 сантыметраў у дыяметры, унутры якога ёсць яшчэ адно маленькае кола з 13 цаглін. Чалавечы голас унутры гэтага цэнтра моцна мяняецца, і нават падзенне манеткі падобна да ўдару гонга. Нават калі тут іграюць ролю нейкія адмысловыя пустэчы пад зямлёй, гэта не мяняе сэнсу.

У Талсе мне ўвесь час здавалася, што аклахомцы абсалютна перакананыя, што жывуць у цэнтры сусвету. І гэты свет канчаецца там, куды ты даязджаеш на сваім пікапе. А што робіцца за гэтымі межамі, іх абсалютна не цікавіць.

Дарма, што свет імкліва змяняецца. Аклахома не спяшаецца змяняцца разам з ім. І мясцовыя жыхары працягваюць жаваць кукурузу...

**Талса — Мінск**



Навальніца ў Талсе — у Аклахоме штогод бываюць тарнада.

Зміцер Панкавец пабываў у ЗША на запрашэнне Дзяржддэпартамента ЗША. Працяг яго падарожных нататак з'явіцца ў наступных нумарах газеты.



Будынак знеслі, а на месцы яго змясцілі мемарыял. «Падонак і сцыкло, Цімаці Маквэй быў пакараны смерцю ў 2001 годзе. Гарэць яму ў пекле вечна», — піша мясцовы сайт, прысвечаны трагедыі, пра тэрарыста.




Цімаці Маквэю было 27 гадоў, калі ён падагнаў грузавік з выбухоўкай. Ён лічыў федэральны ўрад Клінтана «тыранічным».

# Грошы за «Іслач» атрымае саюз Чаргінца?

На рахунку Беллітфонду «завіслі» 3,5 млрд рублёў за прададзены Дом творчасці.

У светлым хваёвым бары пад Ракавам, на беразе Іслачы, стаяць карпусы колішняга Дома творчасці пісьменнікаў. Ад сярэдзіны 1980-х і да канца стагоддзя тут вiравала лiтаратурнае i калялiтаратурнае жыццё. І нават цяпер, пасля ўсіх пературбацый, калі будынак змяніў уласніка і перастаў быць Домам творчасці, ён яшчэ можа ўплываць на лёс літаратуры. Колькі кніг можна выдаць за паўтара мільёна даляраў? І каму ўрэшце дастануцца грошы за прададзеную «Іслач»?

Справа з продажам «Іслачы» пачалася яшчэ ў 2003 годзе. Дом творчасці, збудаваны ў 1986-м, належаў Беларускаму літаратурнаму фонду. Гэтую арганізацыю называлі «пісьменніцкім прафсаюзам». Спадкаемца беларускага аддзялення Літфонду СССР, ён займаўся тэхнічнымі пытаннямі жыцця пісьменніцкай супольнасці: спрыяў у выданні кніг, арганізацыі адпачынку, дапамагаў матэрыяльна.

З прыходам да ўлады Лукашэнкі і курсам на русіфікацыю пісьменніцкія арганізацыі страцілі дзяржаўнае спрыянне і не здолелі захаваць маёмасць. Скарыстаўшыся фармальнасцю, Кіраўніцтва справаў прэзідэнта забрала ва ўласнасць Дом літаратара ў цэнтры Мінска, Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач» стаяў занядбаны і набіраў запазычанасці.

Пасля абрання старшынёй Саюза пісьменнікаў Алеся Пашкевіча старшынёй Беларускага літаратурнага фонду ў пачатку 2000-х стаў Мікалай Чаргінец. Ён усяляк спрабаваў быць пасярэднікам між уладай і пісьменнікамі. Дзеля гэтага час ад часу падкідаў ідэі: удзельнічаць у культурных праектах «саюзнай дзяржавы», складаць чалабітныя на найвышэйшае імя... У 2003 годзе выступіў з ініцыятывай прадаць санаторый-прафілакторый пісьменнікаў «Іслач» за 800 млн рублёў. Але аўкцыён не адбыўся. А праз год Інстытутам нерухомасці і ацэнкі «Іслач» была ацэненая ў 2 млрд 849 млн 761 тысячу рублёў ($1,3 млн).

У 2005 годзе на просьбу Мікалая Чаргінца Кіраўніцтва справамі прэзідэнта на чале з Галінай Жураўковай узялося «дапамагчы з упарадкаваннем» санаторыя-прафілакторыя. Беларускі саюз пісьменнікаў на чале са старшынёй Алесем Пашкевічам не мог яго ўтрымліваць, але і аддаваць яго задарма Кіраўніцтву справаў таксама не было жадання. Таму і гэтую, і ўсе наступныя падобныя прапановы СП адхіляў.

Але ад таго, што запазычанасць «Іслачы» (за камунальныя паслугі, заробкі персаналу) складала каля 100 млн рублёў, санаторый зноў на аўкцыён выставіў Гаспадарчы суд Мінска. Продаж адбыўся, але пасля пісьменнікі праз суд здолелі вярнуць маёмасць.

А ўжо ў 2007 годзе Вярхоўны суд прыняў рашэнне аб ліквідацыі Беллітфонду ў сувязі з «парушэннямі заканадаўства і статута». Сярод апошніх была, напрыклад, такая страшная правіна, як тое, што Беллітфонд не даслаў выяву сваёй эмблемы ў Мінюст.

### Як адбываўся продаж

З пачаткам ліквідацыі Беллітфонду паўстала і пытанне з яго маёмасцю. На першым аўкцыёне, які адбыўся 10 чэрвеня 2008-га, «Іслач» прадалі за 6,6 млрд рублёў ТАА «Белінтэхбуд». Аднак не былі выкананы абавязкі згодна з дамовай: пратэрмінавана выплата. І дамову скасавалі. У выніку санаторый прадалі мінскаму ААТ «Белінвесткапітал» за 3,5 млрд рублёў.

Але грошы літаратары так не атрымалі і дасёння.

У Вярхоўным судзе паведамілі, што «пісьменніцкі прафсаюз» да канца яшчэ не ліквідаваны. І грошы, якія яму належаць, знаходзяцца на рахунку грамадскай арганізацыі. Працэс ліквідацыі, па словах юрыстаў, можа зацягнуцца і на некалькі гадоў.

Камісію па ліквідацыі Беллітфонду ўзначаліў намеснік старшыні Дзяржкамітэта па маёмасці Сяргей Пяткоў. У яе ўвайшлі намеснікі шэрагу міністраў і толькі адзін пісьменнік — старшыня праўлення Беллітфонду Алесь Пашкевіч.

### Цана пытання

У 2008 «Іслач» прадалі за 3,5 млрд рублёў ($1,65 млн па тагачасным курсе). Сума невераградная, як для грамадскай арганізацыі, нават пасля пагашэння ўсіх запазычанасцяў. Чаму ж зацягваецца працэс вяртання грошай уласніку? Відавочна, нехта не хоча, каб іх атрымаў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Бо на гэтыя сродкі прэтэндуе яшчэ і Саюз пісьменнікаў Беларусі на чале з Мікалаем Чаргінцом.

СПБ быў створаны ў 2005 годзе з-за таго, што «дзейнасць нацыянальнай пісьменніцкай арганізацыі аказалася празмерна палітызаванай». Яго сябрамі сталі пісьменнікі, якія знаходзіліся на дзяржаўных пасадах і тыя, хто адкрыта падтрымлівае Аляксандра Лукашэнку. Неадназразова пісьменнікі з саюза Пашкевіча заяўлялі пра ціск з боку дзяржструктур і прымус да пераходу ў СПБ. Цяпер існуюць два саюзы пісьменнікаў. Той, які ўзначальвае генерал, падтрымліваецца з бюджэту краіны.

«Цывілізаваным спосабам мы спрабуем вырашыць гэтае пытанне, — заявіў Чаргінец пра грошы за «Іслач». — Нам пакуль нічога не давалі. Калі большая частка складу таго Літфонду перайшла да нас... людзі ставяць такое пытанне».

А тым часам да старшыні ліквідацыйнай камісіі Сяргея Пяткова прыходзіў чалавек, які назваўся «прадстаўніком літаратурнага фонду». Ён пытаўся, як арганізацыя можа атрымаць грошы ад продажу «Іслачы». Невядома, хто гэты чалавек. Але ў верасні 2010 года сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі стварылі Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, які цяпер узначальвае Уладзімір Куліччэнка. Ён адмовіўся размаўляць наконт сітуацыі з «Іслаччу». А спадар Пяткоў адзначыў, што сродкі будуць знаходзіцца на рахунку грамадскай арганізацыі да яе поўнай ліквідацыі. Але сказаць пра дату заканчэння гэтай цяганіны ён не можа — не ведае.

Згодна са статутам Беллітфонду, які цяпер ліквідуецца, яго сябрамі могуць быць толькі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў. Гэта значыць, што тыя, хто перайшоў у чаргінцоўскі саюз, аўтаматычна выключаюцца з Беллітфонду. А значыць — прэтэндаваць на сродкі ад яго маёмасці не могуць. Згодна са статутам, у выніку ліквідацыі арганізацыі «маёмасць, якая засталася пасля выплаты пазыкаў, выкарыстоўваецца ліквідацыйнай камісіяй у адпаведнасці з мэтамі і задачамі ГА БЛФ». А якія задачы? Матэрыяльная падтрымка сваіх сяброў, спрыянне паляпшэнню іх жыллёвых умоў і г. д.

Пакуль працэс ліквідацыі фармальна яшчэ цягнецца, то і грошы некранутымі павінны ляжаць у банку. Але пытанні застаюцца. Хто і калі атрымае пісьменніцкія грошы?

**Сяргей Макарэвіч**



ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

Дзверы «Іслачы» закрытыя для пісьменнікаў.

**Беларускі літаратурны фонд**

дабрачынная грамадская арганізацыя, якая спрыяе стварэнню ўмоў для творчай дзейнасці пісьменнікаў і забеспячэнню іх сацыяльна-прававой абароненасці. Зарэгістраваны ў 1992. З'яўляецца спадкаемцам Беларускага аддзялення Літаратурнага фонду СССР, уладальнікам яго маёмасці і грашовых сродкаў.

**Санаторый-прафілакторый «Іслач»**

быў пабудаваны ў 1986 на сродкі беларускага аддзялення Саюза пісьменнікаў СССР, спадкаемцам якога з'яўляецца Беллітфонд.

**Продаж «Іслачы»**

На першым аўкцыёне, які адбыўся 10 чэрвеня 2008, «Іслач» прадалі за 6 600 000 000 рублёў ТАА «Белінтэхбуд». Аднак не былі выкананы абавязкі згодна з дамовай — пратэрмінавана выплата. І дамову скасавалі. У выніку санаторый прадалі мінскаму ААТ «Белінвесткапітал» за 3,5 млрд рублёў.

**Што прадалі?**

Галоўны корпус (трохпавярховы цагляны будынак), тры двухпавярховыя катэджы, фінскую лазню, гаспадарчы корпус (кацельная, гараж, пральня), будынак КПП, службовае памяшканне, сховішча для гародніны, каналізацыйную помпавую станцыю, комплекс збудаванняў, інжынерныя сеткі — усяго 27 аб'ектаў (1986 года пабудовы, зямельны надзел 17,78 га).

ЗДАРЭННІ

## Пераспаў, зняў порнафільм і запатрабаваў за яго ў каханкі 500 даляраў

25-гадовы мінчук праяўляў цуды вынаходлівасці ва ўсім. Пазнаёміліся яны праз інтэрнэт. Некалькі спатканняў — і сімпатычны малады чалавек запрасіў сяброўку да сябе ў госці. Дзяўчына вянчання не дабівалася, рамантычны вечар скончыўся ложкам. Можна ўявіць сабе пачуцці маладой жанчыны, калі неўзабаве каханак паведаміў ёй, што іх інтымная сувязь знятая на відэа і што ён зможа праз інтэрнэт распаўсюдзіць пікантны фільм сярод яе знаёмых і суседзяў. Дадаў, што за 500 даляраў гатовы адмовіцца ад сваіх намераў.

Ахвяра вымагальніка не адразу, але звярнулася па дапамогу ў міліцыю. У выніку Ленінскі РУУС Мінска распачаў справу за вымагальніцтва (ч. 1 арт. 208 КК). Казанову пагражае пяць гадоў пазбаўлення волі.

Як аказалася, спрытны хлопец быў раней судзімы за рабаванне.

**СГ**

### Сцісла

• **БМВ пратараніў калону юных веласіпедыстаў на МКАД.** Асноўны ўдар прынялі на сябе трэнеры, якія замыкалі калону. Восем пацярпелых трапілі ў бальніцы Мінска. ДТЗ адбылося 9 сакавіка ўвечары. Паводле папярэдняй інфармацыі, кіроўца легкавой машыны быў няўважлівы ў час руху і ўехаў у веласіпедыстаў, якія рухаліся з невялікай хуткасцю.

• **У Сілічах загінуў лыжнік.** У гарналыжным комплексе «Сілічы» 7 сакавіка загінуў лыжнік. Хлопец катаўся разам са стрыечным братам. Адзін з іх упаў. Брат хацеў яго аб'ехаць і ўрэзаўся ў агароджу, а пасля ў дрэва. Ад траўмаў ён сканаў.

• **23-гадовы следчы застрэліўся падчас дзяжурства.** Падчас дзяжурства 7 сакавіка ў Бярозаўскім РАУС Брэсцкай вобласці з табельнай зброі застрэліўся 23-гадовы міліцыянт. Усяго за выходныя на Брэстчыне адбылося сем самагубстваў.

• **Злодзей скраў 10 кг капусты.** Нецвярозы мужчына ўзламаў кватэру былой сужыцелькі, з'еў тое, што было ў лядоўні, пасля чаго скраў каля 10 кілаграмаў капусты. Пасля рушыў на рынак, дзе збыў тавар па вельмі непрывабнай цане. Выручкі хапіла на чарговую вінную бутэльку. Спусташальніка лядоўні і выкрадальніка капусты неўзабаве затрымалі.

• **У Магілёве знайшлі 40 нелегальных таксовак.** За студзень—люты 2011 года падатковыя органы Магілёўскай вобласці выявілі 39 нелегальных таксі. Нелегальныя перавозчыкі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці. На іх аўто накладзены арышт.

**СМ**

# Побач з разведчыкам

Працяг са старонкі 2.

### Ставіў жучок і забыўся акуляры

Ніколі не забуду, як размаўляў па тэлефоне і раптам пачуў голас трэцяга чалавека — знаёмца, які якраз мне тэлефанаваў. Мы паспачувалі «таварышчу маёру», што ў яго такая паганая тэхніка.

Пачуўшы гэтую гісторыю, Лявон Баршчэўскі распавёў сваю. Гутарачы па тэлефоне з Зянонам Пазняком, ён пачуў голас трэцяга дзеяча БНФ. Так, дзякуючы «таварышчу маёру», тры сябры кіраўніцтва БНФ правялі нараду.

Або гісторыя пра тое, як хлопец з «канторы», паставіўшы «жучок» у тэлефон генерала Паўла Казлоўскага, забыўся пры тым тэлефоне свае акуляры...

У нармальнай дзяржаве за такія штучкі «кампетэнтныя органы» апраўдваліся б у парламенце, іх начальства было б зганьбаванае ў друку... У нармальнай дзяржаве, але не ў нас.

Адзін мой знаёмы разведчык, грушнік, шкадаваў, што ў дачыненні да гэбістаў не дзейнічаюць законы ваеннага часу.

### Ці існуе настаўнік Сідарэвіч

...Гэтая гісторыя пачалася ў 1980-м. Мо ў лістападзе ці ў снежні я прыехаў у Мінск і зайшоў у «ЛіМ». Ледзь зачыніліся за мною ўваходныя дзверы, як з лімаўскага калідора выйшаў Мікола Гіль са жмутом папераў. Ён, без сумневаў, кіраваўся ў машыннае бюро з адрэдагаванымі, г. зн. пакрэмзанымі, тэкстамі. Убачыўшы мяне, Мікола паздароўкаўся і гукнуў у глыбіню калідора:

— Дзе Фёдар Міхайлавіч? Сідарэвіч прыйшоў.

Праз якую хвіліну з таго ж калідора ў вестыбюль павольнаю (я б сказаў асцярожліваю) ступою выйшаў невысокі чалавек...

Так адбылося маё знаёмства з разведчыкам, сябрам былых партызанаў Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка, філосафа Мікалая Крукоўскага...

Разведчыку вельмі рупіла пераканацца, што я існую насамрэч, што Анатоль Сідарэвіч — не містыфікацыя, не псеўданім.

**Фёдар Янкоўскі**

(21 верасня 1918, в. Клетнае Глускага раёна Магілёўскай вобл. — 13 лістапада 1989), беларускі мовазнавец і пісьменнік. У час Другой сусветнай вайны — разведчык. Узначальваў разведку ГРУ у Мінскім, Заслаўскім і Радашковіцкім раёнах. Пасля вайны абраў шлях навукоўца. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Радашковіцкай сярэдняй школе, вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педінстытуце. З 1983 — прафесар кафедры беларускага мовазнаўства. Член СП СССР (з 1968). Аўтар дзясяткаў слоўнікаў і падручнікаў па беларускай фразеалогіі, дыялектызмах, літаратурным вымаўленні, культуры мовы. Імем Фёдара Янкоўскага названая вуліца ў Мінску.



**Такой апаратурай карысталася КГБ СССР для праслухоўвання тэлефонаў.**

Рэч у тым, што ў канцы кастрычніка 1980-га я надрукаваў у «ЛіМе» водгук на падручнік беларускай літаратуры для VIII класа. Падручнік, а дакладней яго аўтары — Васіль Івашын ды Міхась Лазарук, — былі вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне навукі і тэхнікі. Пра характар майго водгуку можна меркаваць па адным яго загалоўку — «Вымагае ўдасканалення». Васіль Івашын быў перакананы, што ніякага настаўніка Сідарэвіча няма, а калі і ёсць, дык нехта напісаў за яго. Гэты «нехта», не выключана, працаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук, бо там працаваў і аўтар раней надрукаванай рэцэнзіі на падручнік Уладзімір Гніламёдаў, які таксама «накідаў» заўваг. Разведчык жа, сам цяпер прафесар і доктар навук, вырашыў выведаць усё дасканала. І так здарылася, што на лаўца і звер прыбег. Бывае ж такое!..

Парукаўшыся са мною, разведчык перш-наперш праверыў інфармацыю, атрыманую ў «ЛіМе», і папытаўся, кім і дзе я працую. Калі пачутае ад лімаўцаў і ад мяне супала, пачаў капаць глыбей.

У тую хвіліну я не ведаў, што перада мною разведчык. Пра гэта і пра іншае (напрыклад, пра тое, адкуль у яго такая асцярожлівая ступа) я даведваўся пазней з апавяданняў ягоных сяброў, і нават пасля ягонай смерці, калі, працуючы ў «Крыніцы», браў удзел у падрыхтоўцы 51-га нумара часопіса, прысвечанага ягонай постаці. А тады, у 1980-м, я ведаў, што гэты невысокі чалавек з густымі брывамі, які ўважліва глядзіць мне ў твар, — філолаг, доктар навук, прафесар. Яго кніжку прыказак і прымавак я чытаў яшчэ ў 8-м ці то ў 9-м класе.

### «Фёдар Міхайлавіч зробіць лепш»

Разведчык застаўся задаволены размоваю. Цяпер ён мог сказаць Івашыну і Лазаруку, што такі настаўнік існуе насамрэч і што ён сам напісаў водгук на падручнік.

У 1981-м я стаў штатным супрацоўнікам «ЛіМа». Не скажу, што сустракаўся з разведчыкам часта. Здароўе ў яго, пажылога чалавека, да таго ж інваліда Зімовае (то бок савецка-фінскае) вайны, было не надта каб добрае. Апроч таго, ён быў чалавек заняты (кафедра, лекцыі, рэцэнзіі, кнігі...), таму не хадзіў без патрэбы ў рэдакцыі, не ўчашчаў на розныя імпрэзы.

А яшчэ разведчык быў працаголікам. Алесь Адамовіч апавядаў мне, як ён аднаго разу міжволі нашкодзіў свайму сябру. Ён стаў сведкам размовы супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства. У тых быў клопат: як падрыхтаваць і выдаць нейкі слоўнік. Адамовіч, пачуўшы гэта, узяў і шчыра сказаў ім:

— Хлопцы, дайце Фёдару Міхайлавічу, ён адзін за вас зробіць гэтую працу, і зробіць лепш.

Пасля Алесь Міхайлавіч прызнаўся:

— Сказаў і не падумаў, што гэта на шкоду Фёдару. Яны ж, інстытуцкія, і так яго не любяць...

### Савецкая ўлада выхавала паліцаяў

Як я зразумеў, разведчыка з першага знаёмства задаволіла ўжо тое, што я — з Заходняй Беларусі. Да Заходняй Беларусі ў яго быў сантымент. У вайну ён, выпускнік Мінскага настаўніцкага інстытута, узначальваў разведку ГРУ ў Мінскім, Заслаўскім і Радашковіцкім раёнах.

Працуючы на ГРУ, ён пераканаўся ў згубнасці бальшавіцкай палітыкі. Нацкоўваючы ў міжваенны час адных людзей на другіх, улада падрыхтавала тых, хто падчас акупацыі пісаў даносы ў СД і ў паліцыю. Дый кадры паліцыі ў значнай меры таксама падрыхтавала бальшавіцкая ўлада, бо ў паліцыю першыя пайшлі мужчыны, пакрыўджаныя гэтаю ўладаю. Вандруючы па ўсходнебеларускіх раёнах, разведчык заўсёды стараўся нанач трапіць у заходнебеларускі — Радашковіцкі. Бо, казаў мне, людзі там былі яшчэ не разбэшчаныя: не навучыліся ўдаваць (менавіта ўдаваць, а не выдаваць) сваіх суседзяў і блізкіх. Мусіць, дзеля гэтай сімпатыі па вайне разведчык пайшоў вучыцца ў Гродзенскі педагагічны інстытут.

Тая размова пра даносчыкаў і кадры паліцыі адбылася падчас абмену думкамі пра «Знак бяды» Васіля Быкава. У рамане выведзеныя запамінальныя вобразы паліцаяў Гужа (пакрыўджаны) і Каландзёнка (даваенны даносчык-селькар). А яшчэ ў паліцыю ў немалой колькасці ішлі былыя супрацоўнікі НКВД. Гэта паталогія такая: у індывіда, не здольнага да стваральнай працы, ёсць патрэба ўзвышацца над іншымі, маючы зброю ў руках. І гэтага індывіда менш за ўсё цікавіць, каму ён служыць: абы зброя, абы ўлада.

### Выбар словаў

Мабыць, атрымаўшы інфармацыю пра мяне ад сваіх сяброў-партызанаў, разведчык быў у размовах даволі шчыры. Мо ў годзе 1985-м мы ішлі з ім з Дома літаратара на Нямігу. У размове дайшлі і да нацыянальнай палітыкі бальшавіцкай партыі. І я пачуў ад камуніста такое, што не кожны беспартыйны мог сказаць. Што бальшавікі пераўзышлі ўсіх імперыялістаў падступнасцю і жорсткасцю.

Тады яшчэ ніхто не гаварыў уголас пра высяленне немцаў Паволжа, крымскіх татараў ды іншых народаў... Я іншы раз думаю: мо і добра, што разведчык не дажыў да часу, калі былыя яго таварыш па партыі, беларус, стаўшы на чале Беларусі, на ўвесь свет знiславіў беларускую мову? Для разведчыка, які ведаў скарбы роднае мовы, гэта было б як нож у сэрца.

Я не кажу пра акуратнасць гэтага чалавека. Даследчык, які павінен быў весці картатэкі, раскладваць усё паводле пэўных прынцыпаў, падставаў для дзялення, ён не дасягнуў бы поспехаў у сваёй дзейнасці, калі б не быў надзелены аналітычным мысленнем, здольнасцю працаваць метадычна. Мусіць, гэтыя яго якасці заўважылі тыя, хто ўзяў яго ў разведку. Гэтаму чалавеку цяжка было трываць разбэрсанасць у працы іншых.

За ім сачылі, яго падслухоўвалі. А каго з больш-менш прыкметных дзеячаў не падслухоўвалі? Дарма, што перабудова! ГБ працавала. Тут і тое трэба мець на ўвазе, што ГРУ заўсёды супернічала з НКВД—КГБ. Пра сутычкі вайсковай разведкі і людзей Берыі—Цанавы на акупаванай немцамі тэрыторыі, здаецца, яшчэ ніхто не пісаў, а сутычкі былі. І вось аднойчы разведчыка «прарвала». Сутыкнуўшыся чарговы раз з тапорнай работаю гэбісцкіх тэлефонных слухачоў, ён знайшоў патрэбны нумар і пазваніў у дом пад бельведэрам. Адрэкамендаваўшыся, выклаўшы сутнасць справы і пачуўшы, што яго суразмоўца вярзе абракадабру, разведчык сказаў гэбісту:

— Калі б вы трапіліся мне ў час вайны, я вас за такую работу паставіў бы да сценкі.

Мо трохі не такі парадак слоў у сказе быў, але сказ мяне ўразіў. Не чакаў яго з вуснаў разважлівага, акуратнага ў выбары словаў прафесара Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Раз ён выбраў такія словы — значыць, дасталі.




**Імем мовазнаўца Янкоўскага ў Мінску названая вуліца. Мала хто ведае, што Янкоўскі быў яшчэ і разведчыкам.**

# Цэнзура на выставе «Пагоні»

**У пятніцу ў Палацы мастацтва ў Мінску адкрылася выстава суполкі «Пагоня». Шэсць прац з яе экспазіцыі былі зняты напярэдадні з ідэалагічных прычын.**



Карціну Алеся Марачкіна «Плошча-2010» змясціць на выставе не ўдалося.

Як паведаміў «НН» старшыня суполкі мастак Аляксей Марачкін, не дазволілі выстаўляць дзве яго карціны, тры плакаты Уладзіміра Крукоўскага і палатно Віктара Мікіты. На пяці працах прысутнічае нацыянальная сімволіка — бел-чырвона-белы сцяг альбо герб «Пагоня». А карціна Марачкіна «Здані (пераможцы)» прысвечаная падзеям 19 снежня 2010 года.

Хто выступіў у ролі цэнзараў? «Кіраўніцтва Саюза мастакоў», — адзначыў Аляксей Марачкін. Ён не стаў удакладняць прозвішчы.

Выстава прымеркавана да 20-годдзя мастакоўскай суполкі.

Гэты гурток запачаткаваў плынь у мастацтве, якую крытыкі назвалі «гістарычнымі рамантыкамі».

У майстэрні ідэолага гэтае супольнасці, Яўгена Куліка, што месцілася на галоўным праспекце Мінска насупраць КГБ, у 1960-я ўтварыўся нефармальны нацыянальны гурток, што, паводле месцазнаходжання, зваўся «На паддашку». Мастакі былі адкрытыя новым павевам у мастацтве. Адначасова яны вярталі з нябыту даўнейшыя жанры: маляваныя дываны, «сармацкія» партрэты. У эксперыментах бралі ўдзел Марачкін, Маркавец, Басалыгі, Купава, Крукоўскі ды іншыя.

Гэтак вынаходзілася арыгінальная пластычная мова. З'явіліся як адкрыцці партрэты Луцкевіча, Дуніна-Марцінкевіча, Вітаўта, іншых гістарычных персанажаў. Гэтыя творы ведае цяпер кожны беларус. Дзякуючы сябрам «Пагоні», у культуру былі вернутыя імёны Язэпа Драздовіча, Пётры Сергіевіча, Алены Кіш.

Адлік дзейнасці гэтай групы мастакоў можна весці ад 1976 г., калі адбылася выстава да 100-годдзя з дня нараджэння Цёткі. Уласна ж творчая суполка «Пагоня» была ўтвораная ў 1990 годзе ў складзе Саюза мастакоў «дзеля абуджэння нацыянальнай самасвядомасці народа, ягонага духоўнага, культурнага і дзяржаўнага адраджэння».

Чынны ўдзел у дзейнасці суполкі ад пачатку бралі Яўген Кулік, Віктар Маркавец, Мікола Купава, Уладзімір Крукоўскі, Георгі Скрыпнічэнка, Генадзь Драздоў, Уладзімір Сулкоўскі, Юры Піскун, Алесь Шатэрнік.

Творцы «Пагоні» стварылі тыя вобразы беларусаў і Беларусі, па якіх мы пазнаём сябе. Праз ілюстрацыі ў школьных падручніках, праз аздобы кніг класікаў, праз клішэ, што былі запушчаныя ў масавую культуру. Менавіта сябры «Пагоні» Крукоўскі, Кулік і Талбузін сталі стваральнікамі дзяржаўнае сімволікі незалежнай Беларусі ў 1991-м!

У сённяшняй экспазіцыі запланаваная дэманстрацыя твораў 60 мастакоў рознага ўзросту і розных творчых манераў. Сярод іншых такія славутыя майстры, як Аляксей Марачкін, Віктар Маркавец, Георгі Скрыпнічэнка. Сюжэты твораў не толькі гістарычныя, многія адлюстроўваюць падзеі сучаснасці.

Як заўжды ў «Пагоні», выстава прымеркаваная да Дня Волі і будзе даступная для прагляду да канца месяца. Пабачым. Трэба пабачыць.

**Сяргей Харэўскі, Сяргей Макарэвіч**

**Забароненыя карціны можна пабачыць**

23 сакавіка ў 17.00 на сядзібе БНФ (пр.Машэрава, 8) адкрыецца альтэрнатыўная выстава «Рэпрэсаваныя творы». На ёй сябры суполкі «Пагоня» пакажуць два дзясяткі прац, якія цэнзары забаранялі выстаўляць цягам шаснаццаці гадоў. Сярод іх – і шэсць працаў, знятых з сёлетняй выставы.

## КАНЦЭРТЫ

**Лявон Вольскі**

28 сакавіка а 19-й у «Графіці» — канцэрт Лявона Вольскага.



**«Нейра Дзюбель»**

**24 сакавіка а 19-й у «Рэактары»** — трыб'ют «Нейра Дзюбеля». Песні Кулінковіча паспрабуюць пераспяваць «Палац», «IQ 48», «Йо-йо», «ЗМ 99», «Зігзаг», «Благі мат!».

**«Не налівай» у «Рэактары»**

**22 сакавіка ў «Рэактары» а 19-й** — поп-трэш-шоу «Разбітага сэрца пацана» з прэзентацыяй новага альбома «Не налівай». «РСП» — гурт, які спявае на трасянцы і мае падтанцоўку з дзвюх дзеўчын.

**Да стагоддзя Чырвонага касцёла**

**Канцэрт, прысвечаны 100-годдзю Касцёла Св. Сымона і Алены ў Мінску, адбудзецца 19 сакавіка ў будынку касцёла.** Арганізатары абяцаюць канцэрт-дзею, напісаную сумеснымі намаганнямі маладых кампазітараў з Польшчы і Беларусі. Канцэрт складаецца з васьмі частак: чатырох інструментальных, напісаных польскімі кампазітарамі, і чатырох частак для хору і аргана, напісаных беларускімі кампазітарамі на тэксты са зборніка вершаў «Ксты» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

**Творчы вечар Сяргея Пукста**

**25 сакавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — творчы вечар Сяргея Пуксты.

**Нарвежскія металісты Enslaved**

**28 сакавіка ў «Рэактары» (вул. Харужай, 29) а 19-й** — канцэрт гурта Enslaved (Нарвегія). Enslaved — тройчы лаўрэаты Grammy ў катэгорыі «метал».

## ІМПРЭЗЫ

**«Дэбют»: новая літаратурная прэмія**

**21 сакавіка ў Сусветны дзень паэзіі ў Мінску адбудзецца ўручэнне літаратурнай прэміі «Дэбют»** імя Максіма Багдановіча, заснаванай Беларускім ПЭН-Цэнтрам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Будуць адзначаныя пераможцы ў трох намінацыях: паэзія, проза, мастацкі пераклад. Цырымонія адбудзецца ў галерэі «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а, ст. м. «Плошча Перамогі»). **Пачатак у 19.00.** Выступяць Генадзь Бураўкін, Алесь Разанаў, Уладзімір Арлоў, Барыс Пятровіч, Лявон Баршчэўскі, Андрэй Хадановіч, а таксама – маладыя аўтары, творы якіх увайшлі ў шорт-ліст прэміі. Прагучаць песні на вершы Максіма Багдановіча. Уваход вольны.

**Уганараванне найлепшых аўтараў «Дзеяслова»**

**17 сакавіка** часопіс «Дзеяслоў» запрашае на ўручэнне штогадовай літаратурнай прэміі «Залаты апостраф». Прэмія ўручаецца ў наступных намінацыях: лепшыя паэзія, проза і дэбют 2010-га года, а таксама — за ўклад у развіццё беларускай літаратуры. У праграме вечарыны — акустычны выступ гурта «Босае сонца». Месца ДЗЕЯння — Музей гісторыі беларускай літаратуры (Багдановіча, 13). **Пачатак, а 18-й.** Уваход вольны.

## ВЫСТАВЫ

**Патрыярх беларускай сатыры**

**У галерэі «Лабірынт»** да 1 мая працуе выстава «Патрыярх беларускай сатыры», прысвечаная 115-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы. На выставе можна пабачыць матэрыялы з архіва пісьменніка: рукапісы, лісты, фатаграфіі розных гадоў, дакументы, асабістыя рэчы, кнігі.

**Творы Ісачова**

У вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) **да 3 красавіка працуе выстава жывапісу і графікі Аляксандра Ісачова** з прыватнай калекцыі.



**Масонская выстава ў Гомелі**

**У Гомельскім палацава-паркавым ансамблі 4 сакавіка** адкрылася выстава рарытэтаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея «Масонская калекцыя са збораў Вацлава Федаровіча». На выставе дэманструюцца масонскія знакі і сімвалы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Усяго прадстаўлена больш як 50 прадметаў. Гэта атрыбуты масонства канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя — друкаваныя і рукапісныя дакументы, рэчавыя помнікі, якія знаёмяць з развіццём масонства: знакі адрознення рускіх і польскіх лож, агульнамасонскія знакі адрознення і знакі розных ступеняў і пасадаў, масонскія стужкі, запоны і кішэні-кашалі.

## ТЭАТРЫ

**16 сакавіка**

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Купалаўскі** — «Вечар»

**17 сакавіка**

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»

**18 сакавіка**

**Купалаўскі** — «Translations»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Лялек** — «Дом, які пабудаваў Свіфт»

**19 сакавіка**

**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Чароўная музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Загадкавыя варыяцыі»
**Оперы і балета** — «Травіята»

**20 сакавіка**

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Купалаўскі** — «Хам»

**21 сакавіка**

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

**22 сакавіка**

**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Беларускай драматургіі** — «Калі скончыцца вайна»

**23 сакавіка**

**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

**24 сакавіка**

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

**25 сакавіка**

**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Оперы і балета** — «Марная перасцярога»

**26 сакавіка**

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

## КІНО

### Кароль гаворыць

**The King's Speech**

Вялікабрытанія — ЗША — Аўстралія, 2010, каляровы, 118 хв.

**Рэжысёр:** Том Гупер

**Ролі выконваюць:** Колін Фёрт, Джэфры Раш, Гелена Бонэм-Картэр, Дэрэк Якабі, Роберт Портэл, Роджэр Гэманд

**Жанр:** Гісторыка-біяграфічная драма па сцэнары Дэйвіда Сэйдлера

**Прызы:** «Оскар» за лепшы фільм, лепшую рэжысуру, лепшага галоўнага акцёра, лепшы сцэнар

**Адзнака:** 7 (з 10)

У аснове сюжэта — сапраўдная жыццёвая гісторыя караля Георга VI, бацькі цяперашняй брытанскай каралевы. Прынц Альберт заікаецца, і яму цяжка выконваць прадстаўнічыя абавязкі. Лекары не дапамагаюць. Прынц звяртаецца да лагапеда Ляянэла Лонга, у якога свае неартадаксальныя метады.

У дадатак лёс паварочваецца так, што Альберт мусіць узяць на сябе абавязкі караля — старэйшы брат пасля смерці бацькі не захацеў адказнасці і абмежаванняў, якія нясе каралеўская пасада.

У дадатак на Вялікабрытанію нападае Гітлер. І прамова Георга VI мусіць згуртаваць нацыю…

Фільм — гісторыя каралеўскага сяброўства, разыграная Колінам Фёртам і Джэфры Рашам.

Амерыканскі фільм распавядае пра тайну каралеўскай улады. Брытанскія каралі царуюць, але не кіруюць. Нават тэксты, якія яны прамаўляюць, — чужыя. Але ёсць каралеўскі голас. На пачатку карціны гэты голас збіваецца, дрыжыць, заікаецца. Напрыканцы ён загучыць ясна. Паміж гэтымі падзеямі — старанная праца, цяжкія абавязкі — і сяброўства.

**Андрэй Расінскі**



# Чый «трыджык» самы ашчадны?

«Наша Ніва» параўновае цэны на мабільны інтэрнэт у Беларусі.

Год таму аператары толькі-толькі асвойвалі тэхналогію 3G. Піянерам быў Life:), а апошняй навінку ўвёў МТС. Цяпер турэцкая кампанія стаіць на новай мяжы, 4G — сувязі чарговага пакалення.

Змаганне за спажыўца прымусіла аператараў знізіць цэны. Інтэрнэт апынуўся ў кароткім спісе прадуктаў, тавараў і паслуг, якія патаннелі за апошні час. Хто з аператараў цяпер мае самыя бюджэтныя прапановы і як мяняецца рынак?

### Трафік падрос

Патроху пачалі адміраць тарыфныя планы з маленькай колькасцю трафіку. Іх карыстальнікаў робіцца ўсё менш. Абаненты атрымліваюць мадэмы і больш не хочуць абмяжоўваць свае інфармацыйныя запыты. Галоўнай праблемай для параўнання застаецца розныя прамежкавыя ўзроўні, абраныя аператарамі. Напрыклад, у Life:) ёсць варыянт на 100 мегабайтаў, а наступны ажно ў пяць разоў большы. Значыцца, абанент, які мае патраціць каля 200—300 мегабайтаў, усё роўна мусіць расшчодрыцца на 19 тысяч, а рэшткі трафіку згараць у яго ў канцы месяца.

У гарызантальнай восі графіка памеры трафіку ранжыраваны ад 100 мегабайтаў да 5 гігабайтаў. Вертыкальная вось — колькасць грошай, якую прыйдзецца выдаткаваць.

### Спрэчная перамога

На невялікай колькасці трафіку відавочнага пераможцы не назіраецца. На трафіку, большым за 1,5 гігабайта, «выпадае» Velcom. МТС і Life:) ідуць нага ў нагу — на кожную прапанову расіянаў у туркаў ёсць такая самая, але на тысячу рублёў таннейшая. Толькі МТС лічыць рэальныя гігабайты (якія складаюцца з 1024 мегабайтаў). Гэта значыцца, што 3072 мегабайты ад МТС каштуюць усяго на 1000 рублёў даражэй за роўна 3000 мегабайтаў ад Life:). Прапанова выглядае больш выгаднай пры вялікім аб'ёме трафіку.

### Пагоня за дармавымі мадэмамі

Правілам добрага тону стала выдача аператарамі абанентам бясплатных мадэмаў, якія ў народзе пачалі называць «трыджыкамі», як у рэкламе аднаго з аператараў. Падпісаўшы дамову на аказанне паслуг сувязі больш чым на год, атрымліваеш ва ўласнасць спецыяльны 3G-мадэм. Такая прапанова ёсць у кожнага аператара. А Life:) нават надае зніжкі на першыя тры месяцы карыстання інтэрнэтам. Цікава, што б/к-мадэмы каштуюць каля $25. Гэта значыцца, што праз год можна прадаць мадэм і ўзяць новы, «адбіўшы» частку выдаткаваных грошай.

Паўнавартаснага безлімітнага плана пакуль так і не з'явілася. Аператары прапануюць абанентам толькі «начныя» тарыфныя планы, і тое з абмежаваннямі па сувязі. Цікавая прапанова ад «МТС» — «неабмежаваны інтэрнэт з мабільніка». За 10 тысяч рублёў можна неабмежавана адкрываць сайты праз праграму Opera Mini. Праўда, не прайграецца відэа і не загружаюцца файлы, большыя за 15 мегабайтаў.

Паўнавартаснага безлімітнага плана на 3G-інтэрнэт пакуль не з'явілася.

### Барацьба за тэрыторыю

Аператары ўжо ахопліваюць 90—95% тэрыторыі Беларусі, на якіх пражываюць 95—99% жыхароў краіны. У гэтай намінацыі перамагаюць МТС і Velcom, але па зоне 3G-пакрыцця лідар — Life:). Сігнал найлепш прымаецца ў вялікіх гарадах. Вясковым жыхарам не варта хвалявацца — там, дзе працуе мабільны тэлефон, амаль заўсёды запрацуе і інтэрнэт. Хоць, магчыма, на нізкай хуткасці.

**Яўген Васількоў**

Кошт мабільнага інтэрнэту ў Беларусі




| | 100 | 150 | 250 | 500 | 750 | 1000 | 1500 | 2000 | 3000 | 4000 | 5000 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| МТС | 10000 | 15000 | 20000 | 20000 | 30000 | 30000 | 50000 | 50000 | 70000 | 90000 | 90000 |
| Велком | 11800 | 11800 | 14900 | 24900 | 24900 | 45000 | 45000 | 55000 | 90000 | 99000 | |
| Лайф | 10000 | 19000 | 19000 | 19000 | 29000 | 29000 | 49000 | 49000 | 69000 | 99000 | 99000 |

## Life:) запусціў беларускамоўную рэкламную кампанію

Але забаяўся перакладаць галоўны лозунг.

Турэцкая кампанія Life:) першай з мабільных аператараў запусціла рэкламную кампанію на беларускай мове. На дарожных развязках Мінска з'явіліся вершаваныя банеры з перайначанымі словамі на тэксты беларускіх аўтараў. Напрыклад, «Бывайце здаровы, жывіце багата!» Адама Русака.

У тэлерэкламе пасля беларускамоўных спеваў у кадры з'яўляецца «сімвал» аператара Вадзім Галыгін і па-расейску запрашае падключыцца да Life:).

Што замінала хоць адну рэкламную кампанію правесці цалкам па-беларуску? Прэс-сакратарка мабільнага аператара Таісія Пастухова адказала, што двухмоўе — выбар супрацоўнікаў творчай групы. Лозунг «Возможно всё!» вырашылі не чапаць, бо ён «неперакладальны на беларускую мову». Цалкам беларускамоўнай рэкламы ад Life:) у дадзены момант не плануецца.

Бывайце здаровы,
Кахайце, сябруйце,
Жывіце без бедаў
І шчасце будуйце!

Разам з тым, прэс-рэліз, апублікаваны ў сувязі з правядзеннем рэкламнай кампаніі, дае трохі іншае тлумачэнне: «Рэкламныя вершы на беларускай мове былі напісаны на музыку вядомых народных песняў. Гэтым мабільны аператар падкрэслівае, што з'яўляецца беларускім мабільным аператарам, аператарам для беларусаў».

Беларусізацыя мабільных аператараў адбываецца марудна. Беларускамоўныя версіі іх сайтаў з'ўляліся пасля грамадскіх кампаній па зборы подпісаў, якія працягваліся не адзін год.

**ЯВ, СП**

## Галоўны мінскі аквапарк адкрыюць праз два гады

Архітэктар засцерагае, што ўлетку там будзе горача, а ўзімку холадна.



Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька заявіў, што аквапарк, які будуецца ў сталіцы, узводзіцца за крэдытныя грошы. Кошт праекта — каля $80 мільёнаў. Будаўніцтва пачалося ў мінулым годзе каля МКАД на кірунку ў Заслаўе. У аквапарку прадугледжана сем асноўных горак розных узроўняў складанасці і вышыні скатаў. Самая экстрэмальная дасягне 21 м. Частка аквапарку будзе пад адкрытым небам.

«Паколькі сцены аквапарку зробяць са шкла, ёсць небяспека, што ўлетку ўсярэдзіне памяшкання можа быць горача, а ўзімку холадна. Зрэшты, паколькі ў Беларусі няма аналагаў такога збудавання, параўноўваць пакуль няма з чым», — прызнаецца галоўны архітэктар Аляксандр Цяльцоў.

**ЯВ**

СПАЖЫВЕЦ

## Што рабіць, калі зламалася картка праязнога метро

Уладальнікі праязных квіткоў метро на магнітных і радыёкартках могуць сутыкнуцца з непрыемнай сітуацыяй: картка з нейкіх прычын сапсавалася, а да канца дзеяння тарыфу застаўся ледзь не месяц. Што рабіць?

Спосаб адзін — візіт ва Упраўленне мінскага метрапалітэна (пр. Незалежнасці, 6, побач з уваходам у галоўны корпус БДУ). На ўваходзе трэба патлумачыць вахцёрцы прычыну візіту і дачакацца спецыяліста. Ён праверыць картку і выдасць новую. За гэта трэба заплаціць 2000 рублёў.

Як патлумачыў «НН» начальнік службы руху КУП «Мінскі метрапалітэн» Рыгор Якімкоў, эканамічна немэтазгодна ствараць дадатковыя цэнтры па замене картак у іншых частках Мінска.

**СП**

Сапраўдная беларуская кухня

### Піраг з гусінай печанню

500 г гусінай печані, малако для замочкі печані, , 30 г кіршу (вішнёўкі, вішнёвай гарэлкі), соль, чорны молаты перац.

Для цеста: 500 г мукі, 0,25 л малака, 200 масла, 1 ч. лыжка солі, 80 г цукру, 2 яйкі, 20 г дражджэй, 40 г разынак, 30 г міндальных арэхаў.

Напярэдадні печань замачыць у 0,5 л малака, на наступны дзень прамыць у праточнай вадзе. Зняць з печані плеўку, нарэзаць кавалкамі, пакласці ў міску, заліць вішнёвай гарэлкай, пасаліць, папярчыць.

Прыгатаваць цеста для пірага з указаных інгрэдыентаў.

Форму для пірага вышмараваць маслам, на дно пакласці ачышчаныя міндальныя арэхі. Выкласці ў форму палову колькасці цеста, зверху пакласці кавалачкі гусінай печані і пакрыць астатняй часткай цеста, паставіць у цёплае месца і даць цесту падняцца.

Выпякаць да гатоўнасці спачатку ў гарачай духоўцы, затым трохі панізіць тэмпературу.

Падаваць халодным.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Літоўская кухарка», 1854. Падрыхтавала НБ.**

## Прыватныя абвесткі

**ВІТАННІ**

**Віншуем любімага Настаўніка і Археолага Міхася Міхайлавіча Чарняўскага** з мінулым Днём Народзінаў. Натхняльнай вясны Вам у душу! Студэнты

**ВАНДРОЎКА**

**Шукаем ахвотных** далучыцца 3 красавіка да падарожжа «Касаўскі абшар» па маршруце: Міронім—Быцень—Івацэвічы—Косава—Мерачоўшчына—Бусяж—Белавічы—Альба. Т.: 262-73-43, (029) 111-73-32.

**ШВЕДСКАЯ МОВА**

**Бясплатна. Шведская мова і культура для падлеткаў.** Працоўная мова — беларуская. Т.: (029) 774-22-47.

**ПРАЦА**

**Шукаю чалавека**, якому патрэбны памочнік у правядзенні хатніх рамонтаў (аддзелка, плітка, гіпсакардон). Т.: (029) 131-28-87.

**КНІГІ**

**Кнігі з серыі «Нива» 1898-1900-ых гадоў:** Ляскоў, Гогаль, Тургенеў. Т.: (033) 634-32-01.

Прадаю каталіцкія кнігі 1910-30-х гадоў. Танна. Т.: (033) 634-32-01.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі



1) Як лікі 18, 188 падзяліць напалавіну, каб у адказе атрымаць 20, 200?

2) **Гульня «Дзівосны вер»**

Вазьміце лічбы 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 і складзіце квадрат так, каб у любым кірунку выйшла 15 (па гарызанталі, вертыкалі, дыяганалі).

**Адказы глядзі на старонцы 16.**

**Сабрала Валянціна Карнялюк**




Такім будзе новы МАЗ. Гендырэктар Мінскага аўтазавода Аляксандр Бароўскі паказаў макеты новых мадэляў, што цяпер распрацоўваюць канструктары. Грузападымальнасць новай машыны будзе 60 тон. Візуальна новы аўтацягнік будзе падобны да легендарных амерыканскіх тракаў. Прэзентацыя машыны, магчыма, адбудзецца ў жніўні гэтага года.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




PHOTO.BYMEDIA.NET

У Мінску з'явіліся рэкламныя постары да Чэмпіянату свету па хакеі. Тым часам Гомельскі абласны форум дэмакратычных арганізацыяў прыняў зварот да Міжнароднай федэрацыі хакея з шайбай: «Цяпер Беларусь не прыдатная для чэмпіянату свету па хакеі».
Кангрэс ЗША таксама рыхтуе рэзалюцыю, якая заклікае не праводзіць чэмпіянат у дыктатарскіх краінах. Старонка 5.



Лыжы ў рукі. Спецназ пад Мінскам святкуе Масленку.



Такія жылі ў Еўропе 53000 гадоў таму. Навукоўцы аднавілі аблічча т. зв. Этцы Айсмана — чалавека меднага веку. У 1991 годзе яго мумію, умерзлую ў лёд, адшукалі ў Альпах.




Вядомы расійскі карыкатурыст Андрэй Більжо стварыў серыю паштовак на тэму «Беларусь без Лукашэнкі» ў сваёй пазнавальнай манеры. «Я адчуваю даўнюю непрыязь да таварыша Лукашэнкі. Для мяне гэта такі брыдкі персанаж з дзіцячых казак, які выклікае жах», — адзначае карыкатурыст.

А так правялі зіму нашы суседзе-літоўцы. Масленіца ў Румшышкесе, літоўскім аналагу Строчыцаў.



## Анекдоты

* * *

Сантэхнік Якімовіч падзьмуў на торт, і свечкі загарэліся.

* * *

Адна з самых шкодных жывёлін для лясной (і не толькі лясной) гаспадаркі — чалавек.

* * *

Кадэбісты выклікалі на допыт пастара. Гутарылі пра Бога. Пастара здзівіла дасведчанасць чэкістаў: «Хаваць ад іх нешта бессэнсоўна, яны ведаюць абсалютна ўсё».

* * *

Цюлені адмовіліся адмывацца ад разлітай з танкера нафты, даведаўшыся, колькі яна каштуе.

* * *

— У вас праграма дзеянняў ёсць?
— Праграма ёсць. Дзеянняў няма.

* * *

Стаць наркаманкай, алкагалічкай і шалавай вельмі проста. Дастаткова прайсці і не павітацца з бабулямі ля пад'езда.

* * *

Трэнажорная зала запрашае ўсіх на бліны! У наяўнасці бліны 5, 10 і 25 кг.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Солец, Лідскага павета.** Нейкі Язэп Ж. наняў у нашай вёсцы кватэру і абвясціў сябе знахарам. Лечыць ён, націраючы спіртам, і ад кожнай хваробы робіць адно і тое. Туманіць галаву людзям, а тыя прушь да яго, несучы свае цяжка запрацаваныя капейкі, якіх шкадуюць на праўдзівага доктара.

**«НН». № 11. 1911**

**Сын Аляксандра Лукашэнкі Віктар два гады таму скончыў факультэт міжнародных адносін БДУ.** Пасля кароткае стажыроўкі ў беларускім пасольстве ў Нямеччыне ён, як і бацька, служыў у памежных войсках. На «дэмбель» сыходзіў капітанам, з узнагародай за выдатную службу на мяжы. Цяпер Віктар працуе першым сакратаром упраўлення Еўропы МЗС Беларусі. Нейкім чынам яму ўдалося пераскочыць цераз пасады рэферэнта, аташэ, трэцяга і другога сакратароў. Гэта амаль тое самае, калі б выпускнік вайсковай вучэльні адразу ўладкаваўся на палкоўніцкую пасаду.

**«НН». № 10. 2001**

**Адказы да старонкі 15:**

1) ~~18~~
~~188~~
2)

| | | |
|---|---|---|
| 6 | 1 | 8 |
| 7 | 5 | 3 |
| 2 | 9 | 4 |

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7060.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 15.03.2011.
Замова № 1237.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614